**Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,**
**Ці запеў салавей, ці загагала гусь, —**
**Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,**
**Сваю матку-зямлю — Беларусь.**

## ЗНАЁМСТВА З БАРАЎЦАМІ

Янка Купала за сваё жыццё шмат дзе быў, шмат якія наведаў мясціны. Адны з іх усім нам вядомыя. Гэта Вязынка, Сенніца, Ляўкі. Іншыя і сёння — ды не абы-якія, а цэлыя літаратурныя паэтавы гнёзды — застаюцца невядомыя ці малавядомыя. Адзін з такіх куткоў — вёска Бараўцы пад Мінскам. Мяне на вандроўку туды падахвоціў мой даўні прыяцель, вялікі аматар пешых падарожжаў Павел Дзядзюля, выкладчык тэхналагічнага інстытута, філосаф. Ён родам адтуль, дзе Бяларучы, Маркаўшчына, Мачаны. Хлапчуком шмат чуў пра Купалу ад свайго бацькі. Умее цікава, па-свойму дасціпна расказаць пра самыя звычайныя рэчы з усімі іх драбніцамі. То лепшага спадарожніка ў гэты шлях і жадаць не трэба.

Бараўцы — самая блізкая ад Мінска, пасля прыгараднай Сенніцы, Купалава вёсачка. Да яе і пехатою недалёка, а на аўто — дык і зусім блізка. І ўсё ж выбіраем пешы шлях. Гэтак больш адчуеш і саму дарогу, і ўсю вабу навакольных краявідаў з маляўнічымі сасновымі барамі на пагорках. Ды і пра Купалу ў дарозе, у хадзе больш разважыш. З Мінска найлепей кіравацца Бараўскім гасцінцам. Гэта самы кароткі шлях да вёскі. Ён ідзе праз Цну-Ёдкаву, затым узбоч цяперашняга Бальшавіка — некалі тут былі скрозь адны хутары, засценкі. А ўжо за Бальшавіком, як Шалімаў лясок мінеш ды з гары Тураўкі спусцішся, і Бараўцы будуць. Пачынаюцца яны з мінскага боку самотнай, на водшыбе, хатай і пагостам у ціхім старым бярозавым гаі, з заімшэлымі крыжамі і мураванымі помнікамі. Могілкі заўсёды наводзяць падарожных, асабліва адзінокіх, на роздум пра чалавечую існасць. Гэтае пачуццё перажываем і мы. Заходзім на апошні прыстанак чалавечых трывог... Ціха, глуха. Толькі лістота шапоча пра штосьці вечнае, сваё. Чытаем прозвішчы на помніках. Крыжы ж усе безыменныя, асабліва старыя, пахілыя. Пад імі вечным сном спачываюць тыя, хто прайшоў праз усе пакуты цяжкога паднявольнага вясковага жыцця — беларускія сяляне, героі і прататыпы Купалавай «Адвечнай песні», якая пісалася менавіта тут, у Бараўцах. Тут яе паэт скончыў у жніўні 1908 года. Я прыгадваю рэмаркі з паэмы, яе змест, і мне пачынае здавацца, што ўсе яны з бараўскай рэчаіснасці...

«Цёмная ноч перад узвіжаннем. Могілкі. Лётаюць совы і кажаны. На паваленым крыжы сядзіць цень Мужыка... Злятаюцца тыя ж самыя духі, што пры хрэсьбінах. Верцяцца каля Мужыка і папераменна пяюць». Ці яшчэ: «Дворны папар, лагі. Недалёка лес...

Пасецца скаціна; каля яе снуе маленькі пастушок... Босы. У зазябнутых руках трымае бяроставую трубу...»

Ў сваёй хатцы і пры матцы
Жыў не жыў,
Бяда выпхнула бадзяцца,
Ў свет пабрыў.

Акурат усё, як калісь ў Бараўцах. Але дарэмна шукаць тут сёння якогасьці следу колішняга жыцця. Адзіна хіба, калі і ёсць якая сувязь з мінуўшчынай, то яна на гэтым пагосце, дзе ніколі не перапынялася і не перапыняецца повязь пакаленняў. Аднак жа пакінем пагост, пойдзем у вёску, пашукаем згадак пра даўнейшыя часы сярод жывых.

Бараўцы сустрэлі нас, як і належыць летнім часам сустракаць вёсцы выпадковых вандроўнікаў, млявай цішынёй. Старыя, а іх тут не так ужо і шмат, пахаваліся ад сонца, маладзейшыя разбегліся хто куды: хто ў поле, хто на сенажаць. Для нас гэта і кепска, і добра. Добра, што можам, нікога не турбуючы, знаёміцца з вёскаю, але кепска, што няма з кім загаварыць. Ідзём вузенькай, дзвюм фурманкам няма як размінуцца, гарбатаю вуліцаю з жардзяною агародкаю. Мой спадарожны цікавіцца, ці не здагадваюся я, чаму вуліцы даўней былі такія вузкія. Паціскаю плячыма. А ён тым часам тлумачыць: «Даўней сяляне зямлёй вельмі даражылі. Кожнай пасачкай ашчаджалі, кожным лапікам. Вось таму і вуліца вузкая. Зямля ж была купленая ці арандаваная». Гэта ўсё, адчуваю, у майго прыяцеля з бацькавай навукі. Аднак жа заканчваецца вёсачка, а вока так ні на чым не запынілася, апрача хіба старой, пахілай драўлянай, збудаванай у апошнюю вайну каплічкі на разбегу дарог, каб можна было сказаць: «Вось гісторыя, вось даўніна». А дзесьці ж быў фальварак пані Стралковай, у якой Купалава маці арандавала зямлю. Толькі дзе ж ён? Навокал ніякіх прыкметаў колішняй сядзібы. Праваруч — агароды, нізовіна і далей глухою сцяною з меднаствольных гонкіх, нібы намаляваных, соснаў і елак зубчасты лес. Злева — хаты, двары, поле. Звычайна ад былых фальваркаў дык хоць прысады застаюцца, а тут ніякага знаку. Давялося да людзей звяртацца. Аднак пра пані Стралковую і яе фальварак у Бараўцах нічога не чулі. Магчыма, у іншым месцы жыла, а зямлю тут мела. А вось, дзе Купалаў двор быў, дык ведаюць. Гэта за балотцам, за хмызамі, на Папкоўскай гары. Побач з ёй яшчэ Бірулёва гара. А пры іх, унізе, невялікая сажалка з вербамі. Некалі, як кароў пасвілі ці што іншае

рабілі пры той гары, дык Раман Асіновіч усё расказваў пра Луцэвічаў ды паказваў: «Вось тут тое было, а тут гэта...». Але ўсё забылася. А самога Рамана ўжо няма на свеце. Вельмі ж ганарыўся, што Купала жыў у тутэйшых мясцінах. «То ж цяпер Бараўцы нішто,— казаў ён,— а даўней вунь якія людзі тут жылі!» Гэтак нам расказалі цётка Вера і дзядзька Міхал. Прозвішча іхняе аднайменнае з назвай вёскі. Абое яны — Бараўцы. Але кіруемся пад згаданыя пагоркі, бліжэй да лесу. Агінаем нешырокае, прадаўгаватае з хмызамі балотца і з паўночнага ўсходу натыкаемся на тую самую сажалачку, пра якую нам казалі. За ёй, уздоўж балотца, сакавітая, аксамітная, нявытаптаная, з маладой атаваю лугавіна і як украса ўсёй ёй — высокі, з дзвюма вершалінамі дуб. Мой спадарожны цешыцца ім і кажа: «А гэты дубок памятае Купалу!» Азіраемся наўкола. Мясціна і напраўду вельмі прыдатная да жыцця, чыстая, акуратная, ахайная. Уяўляю колішнюю сядзібу, дзе Купала напісаў сваю славутую, хоць і «цяжкую і сумную да слёз», але поўную аптымізму, чалавечай велічы «Адвечную песню», якую яшчэ ў 1910 годзе Максім Горкі назваў слаўнаю і марыў убачыць перакладзенай на рускую мову.

...Доўгая, з вокнамі на паўднёвы ўсход хата. Пры хаце — садок. Вузкая сцяжынка ад парога-каменя збягае ўніз да сажалкі. Пры сажалцы — студня з почапам. Па лугавіне важна ходзяць бусел з бусліхаю. З Папкоўскага пагорка добра відаць і самі Бараўцы. Яны адсюль бачацца паэту як на далоні, з сваімі старымі амшэлымі хатамі і могільнікам разам...

Пра Бараўцы і пані Стралковую пісалася трохі ў «Нашай ніве». У нататцы за ліпень 1909 года гаварылася, што «тутэйшая памешчыца пані Стралковая за згодай сваіх мужыкоў, даўнейшых яе падданых, аддзяліла ім сервітутную пашу, з якой яны карысталіся ў яе фальварку Бараўцах на ўсім полі». Гэтая ж пані таксама надзяліла бараўскіх сялянаў зямлёй і лесам, прычым сваю ласку размеркавала так: на дзве хаты, што мелі надзелу па шэсць дзесяцін, дала па паўтары дзесяціны зямлі з маладым лесам і 25 рублёў грашыма, на тры хаты, што мелі надзелу па тры дзесяціны зямлі, дала па адной дзесяціне гэтага ж самага лесу. Аўтар нататкі — ці не сам Янка Купала? — ухваляе гэты крок пані і піша далей: «Варта было б, каб і ў другіх мяйсцох кончылася так сама», але тут жа зазначае: «Сервітуты — гэта адна з найбольшых нявыгод для двара і не скажу, каб заўсягды карысна было і для вёскі».

У гэтай жа нататцы мы маем і штрых саміх Бараўцоў той пары. «Вясна,— піша аўтар,— як і ўсюды, далася нам у знакі. Найлепей сведчаць аб гэтым паздзіраныя стрэхі з вясковых пунь, тачкоў.

Зямлі тут у людзей нямнога. Заработкаў таксама вялікіх няма; яшчэ калі хто ўмее трымаць у руках сякеру, дык сяк-так каля будоўлі зловіць рубель на патрэбу, а каторы толькі з зямлі глядзіць карысці, дык і зубы на паліцу прыходзіцца класці».

З іншых заробкаў бараўцоў аўтар называе збор камянёў. «Яшчэ зарабляюць у нас, возячы каменне ў Мінск...» Плата за воз была пяць злотых, але тыя злотыя ў вёску часцей за ўсё не траплялі, асядалі ў мінскіх манапольках, на Пярэспе.

«Чалавек бярэ пяць злотых за воз камянёў, але найменш прапівае 50 кап. Гэтак і самі мужыкі не дагадываюцца, што топяць у гарэлцы па 75-100 руб. у год, калі толькі з'ездзіць з каменнямі тры разы на тыдзень».

Такімі паўстаюць Бараўцы з Купалавых часоў і хутчэй за ўсё ў Купалавых запісах.

## НАРОДЗІНЫ ПАЭТА

У Бараўцы Луцэвічы пераехалі ў 1904 годзе з Селішча. Пераехалі асірацелыя, вельмі згараваныя, з незагойнымі душэўнымі ранамі. За адзін толькі 1902 год сям'я страціла напачатку бацьку, а затым малодшага Ясевага брата Казіка і дзвюх сястрычак — Сабіну і Гэлю. А вясной 1904 года моцна занядужала сама Бянігна. Ясь у гэтую пару служыў у маёнтку пана Свяцкага Беліца на Сенненшчыне. Але як толькі дачуўся — атрымаў тэлеграму,— што захварэла маці, кінуў службу і вярнуўся ў Селішча, заняўся гаспадаркаю. Тым часам маці акрыяла, і Луцэвічы вырашылі змяніць арэнду. Думалі, можа, на новым месцы будзе лепей, больш пашчасціць. Ясь перавёз сваю моцна парадзелую сям'ю — маці і сёстраў Ганну, Марыю, Леакадзю ў Бараўцы. Бянігна ўзяла на свае кволыя ўдовіны плечы ў арэнду бараўскі засценак.

Бараўцы Луцэвічам спадабаліся. Мясціна была гожая. І не такая ўжо глухая. Недалёка губернскі Мінск. Амаль побач Астрашыцкае мястэчка. За лесам рэзідэнцыя славутых графоў-асветнікаў Тышкевічаў з мураванымі палацамі, багатым зборам карцін вядомых мастакоў, з сядзібным звярынцам, з каталіцкай каплічкай. Яшчэ бліжэй Казіміраўка — сядзіба дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча з добрай бібліятэкай. Ясь завёў знаёмства з сваімі новымі бараўскімі суседзямі. Гэта былі ўсё маладыя гаспадары, яго аднагодкі. Ясь вадзіў з імі на начлег коней, каратаў вечары пры вогнішчы. Рабіў усё, што трэба па гаспадарцы: араў, касіў, сеяў, малаціў, сек дровы, даглядаў скацінку. Але мусім сказаць, Ясю ў Бараўцах не вельмі

сядзелася. Яго цягнула ў свет, у жыццёвы вір. За апошнія два-тры гады ён гэтулькі ўсяго спазнаў, што галава кругам ішла. Казалі скрозь, што вось-вось павінен увесь свет перакуліцца. Ясь жыў у тыя гады як сам не свой, у нейкай мроі, чакаючы пераменаў. А тут патрапіла яму ў рукі «Дудка беларуская» і якаясь кніжка Дуніна-Марцінкевіча. Яны перавярнулі ўсю Ясеву душу. То якая там гаспадарка! Якія там каровы, авечкі, коні! Тут цэлае адкрыццё: на свеце ёсць цуд — кніжкі на той мове, на якой гаворыць увесь тутэйшы люд, і мову гэтую шаноўныя аўтары, і не з малога панства, уважаюць за такую ж людскую, як французскую, нямецкую ці якую іншую. Толькі так сталася, народ гэты занядбалі, затуркалі, што ён і сам сябе не пазнае. А была ў яго калісь слаўная гісторыя. А цяпер жа толькі чуеш пра беларуса: мужык ды хамула. «Не, трэба гэтаму люду дапамагчы, расплюшчыць яму вочы на самога сябе, раскатурхаць яго!» І з-пад Ясевага пяра паплылі радкі:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Чытаць, пісаць я не умею,
Неходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Бо з працы хлеб свой здабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І свята рэдка калі знаю, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Галеюць дзеці век без хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Не маю грошы на патрэбу, —
Бо я мужык, дурны мужык...

І пасля гэтых горкіх скаргаў — высокая чалавечая годнасць:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,

Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

Напісаць то напісалася. А што далей? Каму паказаць? Дзе надрукаваць? Згадаўся Уладак Самойла з суседняй Казіміраўкі. Ён жа працуе ў газеце...

І вось 15 мая 1905 года. Нядзеля. Падпісчыкі атрымалі чарговы нумар «Северо-Западного края», а ў ім згаданы верш, падпісаны нікому невядомым тады імем — Я. Купала. Гэтак адбыліся ўваходзіны ў беларускую і сусветную літаратуру новага чарадзея паэтычнага слова. Звязаны гэтыя ўваходзіны, безумоўна, і з Бараўцамі. Тут канчаткова выношваўся і завяршаўся верш. Тут жа нарадзіўся і паэтаў такі ўдалы паэтычна-рамантычны псеўданім.

Я не паэта, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Зовуся я толькі — Янка Купала.

## СВОЙ ПЯСНЯР

Што ж, літаратурны дэбют, пра які гэтак мроіў Ясь Луцэвіч, адбыўся. Паэт-дэбютант, пясняр-пачатковец з Бараўцоў быў на сёмым небе ад радасці. Праўда, падзею гэтую, як і ўсялякую іншую, Купала перажываў больш у сабе.

Ясь, вядома ж, набыў не адзін паасобнік «Северо-Западного края» з сваім вершам. Усе іх ён прынёс дадому, у Бараўцы. Трэба сяму-таму паслаць і суседзям даць, і матулі з сёстрамі паказаць: хай ведаюць, чым іхні Яська жыве, што яго турбуе, што яму не дае ні сну, ні спакою, чым яго сэрца гарыць, палымнее.

Луцэвічы па-рознаму падзялілі Ясеву радасць: маці стрымана — паглядзець верш паглядзела, нават у руках патрымала газету, але нічога не сказала, моўчкі паклала яе на стол. Ясь ведаў, што гэтае маўчанне значыць: «Каб ты, мой любы сынок, на свае плечы арэнду ўзваліў, я б гэта зразумела... А то з нейкімі вершыкамі носішся...»

Зусім інакш спаткалі першае Ясева выступленне ў друку сёстры. Яны былі ў такім веку, калі душа спявае, хочацца смяяцца,

жартаваць, гарэзіць. Старэйшай, Ганне, ішоў дзевятнаццаты год, Марыі — васемнаццаты, а Лёля сустракала сваю пятнаццатую вясну. От яны і пацешылі брата, цягнулі газету адна ад аднае.

Суседзі таксама парадаваліся за Яся, неяк інакш пачалі глядзець, лавілі цяпер кожнае яго слова. А бараўскія равеснікі-аднагодкі прасілі дзяліцца з імі навінамі: Ясь жа вучоны, вершы друкуе, шмат дзе бывае. І той не скупіўся, дзяліўся ўсім, дзе што чуў. Якраз на гэтую пару яму трапляюць у рукі рэвалюцыйныя пракламацыі на беларускай мове, з якіх ён даведваўся шмат чаго цікавага. Гэтымі навінамі дзяліўся і з бараўскімі дзецюкамі. Але расказаўшы што-колечы, засцерагаў, каб не ўсякаму давяралі пачутае, бо можна за такія навіны і ў астрог загрымець. Наогул, лета 1904-га дый першая палова 1905 года прайшлі для Яся Луцэвіча бурліва. Ён шмат ездзіў, заводзіў шмат знаёмстваў. Адным з такіх яго новых знаёмых стаў Алесь Бурбіс. Пра іх першую стрэчу Янка Купала пазней напіша: «Пазнаёміўся я з ім напярэдадні рэвалюцыйнага 1905 г., калі памяць мяне не ашуквае, летам 1904 г. Гэта было ў горадзе Мінску. Прыехаўшы з вёскі, я, паводле падказкі знаёмых, трапіў на рэвалюцыйна-канспіратыўную кватэру. Усё гэта былі гарачыя, шалёныя галовы, якія збіраліся цэлы свет перакуліць дагары нагамі. Вось сярод іх і быў Бурбіс, тады яшчэ малады, вясёлы, такі лёгка даступны хлапчына... З размоў людзей, што сабраліся на гэтай кватэры, я зразумеў, што тут вырашаецца, абмяркоўваецца пытанне вельмі важнае, пытанне аб тым, каб узняць увесь беларускі народ, усё беларускае сялянства супраць гвалтоўнікаў-паноў і іх спрадвечных здзекаў. У цэнтры гэтых планаў стаяла нацыянальнае і эканамічнае вызваленне Беларусі».

На такіх вось грамадскіх хвалях і ўваходзіў Іван Луцэвіч у беларускую літаратуру адразу пасля яго пераезду ў блізкія ад Мінска Бараўцы. «Пісаць я пачаў з 1904 года, але напачатку нічога пуцёвага не выходзіла, бо не меў ніякага ўяўлення пра тэорыю верша. Затым патрапіла мне ў рукі стылістыка і справа пачала наладжвацца».

«Пісаў спачатку па-польску, але неўзабаве пачаў і па-беларуску. Колькі польскіх вершаў, вельмі мала, было надрукавана ў якімсьці польскім часопісе...» «У 1904 годзе трапляюцца мне ў рукі беларускія пракламацыі і рэвалюцыйныя брашуры на беларускай мове. Гэта канчаткова вызначыла, што я беларус і што адзінае маё прызванне — служыць свайму народу ўсёй душой і сэрцам...»

«У 1904-1905 гг. я пазнаёміўся з беларускімі рэвалюцыйнымі дзеячамі (здаецца, членамі «Грамады») У.І. Самойлам, колішнім маім рэпетытарам, Бурбісам... Яны давалі мне нелегальную літаратуру для

распаўсюджвання і г.д. Дарэчы... я пазнаёміўся з беларускімі рэвалюцыйнымі дзеячамі... калі жыў яшчэ ў Бараўцах».

«...Калі з'явіўся ў 1905 годзе ў друку мой верш «Мужык», я ўжо свядома ведаў, што і як мне пісаць».

У гэтую ж пару Ясь Луцэвіч блізка сышоўся і з пісьменнікам Ядвігіным Ш. Знаёмства з ім было для Купалы вялікай падзеяй, ён даведаўся шмат цікавага пра сакрэты пісьменніцкага рамяства.

## ПРАКТЫКАНТ ВІНАКУРА

Пасля апублікавання першага верша Іван Луцэвіч спакваля звыкаўся з сваім новым імем — Купала. Шмат чытаў, пісаў, нямала і перакладаў. Тварылася яму лёгка, плённа. Згадваў потым, што мог за адзін дзень скласці дзвесце-трыста радкоў. Пісаў, дзе патрапіць: пры вогнішчы, пры месяцы, у цемры навобмацак, падчас працы таксама. Усё лета 1905 года ён правёў у Бараўцах. Але з вершаў жыць не было як.

Паэты вучаць месты, вёскі
Як трэба жыць, багатым быць.
А самі ж часта на падноскі
Неўмеюць грошы зарабіць.

Пяюць аб шчасці, добрай долі,
Аб волі шчырай для людзей,
Пяюць, не помняць, што ніколі
Не будзеш песняй сыт аднэй...

Кіруючыся сваім крэда — «не будзеш песняй сыт аднэй»,— Ясь, падмогшы сям'і збольшага па гаспадарцы, увосень 1905 года падаўся на заробкі. Праўда, недалёка — у суседні, кіламетраў за дзесяць, маёнтак Сёмкава. Там быў бровар пана Рамуальда Хялхоўскага. Сюды і кіраваўся Луцэвіч.

Маці паспрабавала яшчэ раз угаварыць сына застацца на гаспадарцы. Але Янка не адступаў: «Пайду, зіму перазімую, а там пабачым. Не назусім жа пакідаю. На нячынныя дні прыходзіць буду».

«Ну што ж — сыну ўжо дваццаць тры. Даўно дзяцюк. Хай вырашае сам. Калі яму там будзе лепей, няхай ідзе. Тым больш, што пра ўсё дамовіўся»,— разважыла Бянігна.

Маці сабрала сёе-тое ў торбу на першую пару, пакуль з кім на сталаванне дамовіцца. Сёстры — Марыя, Ганна, Лёля — паглядалі на

зборы і таксама не зусім разумелі, чаму Янка пакідае іх, чаго яму не сядзіцца ў Бараўцах. І дома клопату хапае. Яны яшчэ не ўсвядомілі, што ў іхняга Янкі асаблівая душа, якая прагне новых сустрэч, новых абставін, новых дарог, уражанняў, што гэтая душа ўвесь час у руху, у гарэнні, неспакоі, часам хоча адзіноты і выпрабаванняў. Ды гэтага не раскажаш ані маці, ані сёстрам: не зразумеюць, за дзівака палічаць, хоць і ведаюць, што іхні Янка паэт і ўжо друкаваў свае вершы ў газеце. Але адно ведаць, а другое разумець! То лепей моўчкі з хаты выйсці.

К долі, к волі, гэт, па полі,
Як леў, пабягу,
Спаці, ждаці ў курнай хаце
Ўжо больш не магу.

Свет вялікі, песні, крыкі
Мкнуць з усіх старон;
Звоніць штосьці, — к славе ў госці
Кліча гэты звон.
.................................................
Далей, вышай памкну, гэйжа:
Ўжо пралажан след;
Трудна, маці, ў курнай хаце, —
Паляту у свет!

Выйшаў Янка з Бараўцоў раніцай. Спусціўся з свайго пагорка, прайшоў трохі паўз балотца, паслухаў пошум соснаў, азірнуўся яшчэ раз на сядзібу: маці з сёстрамі стаялі ля хаты і глядзелі яму ўслед — быў адзіны мужчынка ў хаце і той пакінуў іх. Памахаў ім рукою і прыспешыў крок.

Як выйду за хату,
Дарога ідзе,
А куда ж, кудою
Мяне павядзе?..

Ішоў Янка на сёмкаўскі бровар, а душу ні бы сотня кошак драла. Усё думаў пра сям'ю, пра маці, успамінаў разладную з ёй размову. Пасля смерці бацькі і трох дзяцей яна вельмі змянілася: занурылася, змоўкла, нібы сама ў сябе зайшла. А яшчэ ж нядаўна не было на свеце весялейшай і шчаслівейшай за яе кабеціны. Яна і спявала, і прала і ткала, яна і лячыла — ніякай працы не цуралася, усюды паспявала. І

ўсё ў сям'і ладзілася. Але тое было за гаспадаром. Пасля смерці Дамініка весялосць пакінула Луцэвічаў. Усё разумеў Янка! На кволыя матуліны плечы такі цяжар узваліўся. Не кожны мужчына вытрымае. А яна ўзялася за арэнду. Ды толькі свет так уладкаваны: кожнаму сваё...

Неўзабаве ён перасек дарогу на Пільніцу. Тут на ўскрайку Бараўцоў яго прывеціў каржакаваты пры невялічкай сажалцы, парослай па беражках пажухлай травой і чаротам, яшчэ адзін бараўскі прыгажун дуб-дзядуля. Мясціна гэтая з шматлікімі пагоркамі называлася Лабацёншчына, належала Лабатым. Далей яго шлях ляжаў праз Раманаўку, Паперню, Рахманькі, Ашмяну, Восава і Змяёўку. Сядзіба пана Хялхоўскага мясцілася ў вельмі маляўнічым кутку: старасвецкі парк з векавымі дрэвамі атуляў дзядзінец і броварныя будынкі, скляпы. Побач вывівалася-цякла між кустоў алешніку чысцюсенькая, як божая раса, Чарнушка. Сядзібу абступалі казачныя лясы. З-пад пагоркаў струменіліся дзесяткі крыніц.

Сёмкаўскі бровар быў яшчэ зусім новы. Заснавалі яго толькі ў 1902 годзе. Ён выпускаў за сезон трыццаць тысяч вёдраў спірту. Янку прыставілі практыкантам да вінакура Сарнецкага. Той сустрэў хлопца весела, прыветна, сказаў, што зробіць з яго сапраўднага вінакура. На бровары ў Янкавы абавязкі ўваходзіла сачыць, каб разліў добра ішоў. Меў і розныя іншыя даручэнні. Ведама ж, практыкант! Усялякай чорнай работы хапала! «Умовы працы на бровары,— згадвала Купалава сястра Ганна,— былі вельмі цяжкія, норавы грубыя і прымітыўныя. Брату там не падабалася. Усе, хто працаваў на гэтым бровары, былі горкія п'яніцы. Купала не піў і піць з імі не хацеў...»

Няпроста было Янку, дзіцяці лясоў і палёў, прызвычайвацца да броварнага промыслу. У будынку ўсё парыла, дымілася, сіпела, шыпела, булькатала, нібы тут сабраліся тысячы розных гадзін і правяць свой баль. Але калі ўлез у дугу — не кажы, што не магу. Янка памятаў гэтую мудрасць і трываў. Пасля напіша, што зазнаў на сёмкаўскім бровары такога пекла, якога дагэтуль яшчэ не ведаў. Не раз яму прыходзіла ў галаву кінуць-рынуць усё гэта і вярнуцца на гаспадарку ў Бараўцы. Аднак і сялянская праца не мёд. Адна хіба перавага — на гаспадарцы праца на вольным паветры, а гэта для чалавека куды здаравей, чым бражны пах. І Купала, лірычна-рамантычная душа, вясной 1906 года вяртаецца ў Бараўцы, вяртаецца той жа дарогай, што восенню 1905 года выправіўся на бровар. А перад гэтым ён да ўсяго абварыў сабе рукі.

Цэлае лета ў Бараўцах: гаспадарыць і піша, піша і гаспадарыць. Зрэдку адлучаецца з дому: то ў Мінск, то да Самойлы ў Казіміраўку, чытае Уладаку свае новыя вершы. Той слухае яго і раіць Ясю рыхтаваць кніжку, балазе ў Пецярбургу шчырыя беларускія душачкі заснавалі выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца». Такая парада Купалу, вядома, была даспадобы, і ён апантана працуе. Але вось надыходзіць новая восень, і Янку зноў пацягнула на заробкі — на гэты раз ён трапляе аж за Маладзечна, у Яхімаўшчыну, на бровар пана Любанскага. Гэта поблізу Палачанаў. У Яхімаўшчыне яму пашчасціла пазнаёміцца з надзвычай цікавым чалавекам — настаўнікам з вёскі Гарадзілава Андрэем Посахам. Былі яны амаль аднагодкі, равеснікі, з аднымі трывогамі і хваляваннямі. Іх часта бачылі разам. Посах расказваў паэту пра сваіх вучняў. Купала чытаў настаўніку вершы. Іх абмяркоўвалі, шчыра спрачаліся. Гаварылі пра будучыню свайго народа і краю. Купала даводзіў думкі вершамі. Посах вычытаным з кніг. У яго ўжо тады была ладная бібліятэка. Пераважалі ў ёй кнігі грамадска-палітычнага накірунку. Нездарма ж гарадзілаўцы цішком, між сабою, называлі свайго настаўніка «палітыканам».

Гэта быў цікавы і вірлівы час. Скрозь вялася гаворка пра адраджэнне культуры беларускага народа, пра грамадзянскія правы беларускай мовы. Газета «Наша ніва» раз-пораз друкавала матэрыялы пра навучанне беларускіх дзяцей на іх роднай мове. Збіраліся настаўніцкія з'езды. Адзін адбыўся ў пачатку жніўня 1907 года ў суседнім Вілейскім павеце. На ім таксама вялася шчырая гаворка аб перабудове ўсёй народнай асветы ў Беларусі, аб адукацыі на роднай мове. «Наша ніва» пра гэты з'езд пісала: «Усе прызналі, што школы прынясуць дзецям куды больш карысці, калі будуць пачынаць па-беларуску, як яны прывыклі гаварыць з бацькамі ў хаце». Усё гэта хвалявала і маладых тады яшчэ Купалу і Посаха і знаходзіла водгук у іх пранікнёных размовах.

...З Яхімаўшчыны ў Бараўцы Купала прынясе цэлую кайстру вершаў. Сярод іх «Ворагам Беларушчыны», «А хто там ідзе?», «Што ты спіш?», «Там», «Пакіньма напуста на лёс свой наракаць», «Не тужы», «Дайце мне волю», «Гэта крык, што жыве Беларусь» і шмат-шмат іншых.

## СТУКІ, СТУК, СТУК, МАЛАТОК!

Вершаў у Купалы і сапраўды сабралася цэлая торба. А вось надрукаваць яму пакуль што ўдалося адзін. Амаль два гады мінула з першай публікацыі. Шмат чаго змянілася за гэты час на свеце. У Вільні ўжо другі год выходзіць «Наша ніва». Здавалася б, каму, каму, а яму, Купалу, руплíўцу беларускага слова, беларускай песні, там шырокая дарога. Але чамусьці ў згаданай газеце пакуль ніводнага яго верша не з'явілася. Янка быў у роспачы: «Мо не так ці не тое пішу?»

Не дайце згінуць песняру
Ў нязнанні, ў беднасці, ў глушы,
Стварыце радасці зару,
Зганіце сум з яго душы, —
Не дайце згінуць песняру.
Ён так цярпіць за крыўды ўсе,
Ён пеці выйшаў у пару,
Вам толькі слухаць, што пяе,
Не дайце згінуць песняру...

З сваімі трывогамі малады, неўтаймоўны пясняр зноў пайшоў да Уладака з Казіміраўкі. Той яго заспакоіў, суцешыў, што гэта нейкае непаразуменне. Не можа такога быць, каб у газеце не адчулі, не зразумелі яго таленту. Мінула яшчэ колькі часу, і вось нарэшце ў «Нашай ніве» за 11 мая 1907 года з'явіўся першы Янкаў верш у беларускамоўным друку. Для Купалы гэта была вялікая падзея. Два гады чакаў чарговай публікацыі верша! То ж трэба цярпенне, вера! І Купала верыў і пісаў, пісаў... Верш «Касцу» надрукавалі на першай старонцы. Гэта была публікацыя-візітоўка. Купала будзіў прыспаную чалавечую годнасць сялянаў, а ўладарам нагадваў: каса ў руках селяніна не толькі прылада працы, але і грозная страшная зброя. Таму ў мірным меладычна-рытмічным перастуку кляпання касы гучыць і пагроза:

Стукі, стук, стук, малаток!
Кляпі коску, мужычок,
Кляпі востранька сваю,
А я песеньку спяю.
Гоп, гоп, гоп!
Я табе спяю.

Быў даўней народ хітрэй,
Не знаў стрэльбаў, дык аей!
Коскі шаблямі былі,
Ваяваць з імі ішлі.
Гоп, гоп, гоп!
Ваяваць ішлі.

Касу ў шыйцы адагне
І насадзіць, і махне;
Смерць таму, хто не сышоў:
Касой рэзалі ўрагоў.
Гоп, гоп, гоп!
Рэзалі ўрагоў.

І гарматаў быў не страх,
Грамада вялікі гмах:
Адзін ляжа, сто ідзе,
А хто роўны грамадзе?!

Газета «Наша ніва» з Купалавым вершам «Касцу» хадзіла па Бараўцах з хаты ў хату, з двара ў двор. Усе словы і вобразы яго былі сялянам блізкія і зразумелыя, узятыя з іхняга жыцця і побыту, лёгка клаліся на сэрца.

Пасля гэтага верша Купалавы творы ў «Нашай ніве» пачалі з'яўляцца сістэматычна. У другой палове 1907 года газета надрукавала іх больш за дзесятак. Гэта — «Лета», «Ці ж гэта многа?!», «З песняў беззямельнага», «Непагода», «Вучыся!», «З песняў аб мужыцкай долі», «На што?» (Якубу Коласу), «Чары», «Прыйшла восень». Пачынаючы з ліпеня 1907 года не было такога нумару, каб не друкаваліся Купалавы вершы. Пад усімі стаяў адзін і той жа псеўданім — Янук Купала. Так пясняр падпісваў свае творы і ў 1908 і 1909 гадах.

## ПАМІЖ ПУСТАК, БАЛОТ...

У 26-ым нумары «Нашай нівы» за жнівень 1907 года, у так званай «Паштовай скрынцы», была змешчана парада Янку Купалу. «Не ўжывайце беларускіх слоў, мала вядомых, так званых «правінцыялізмаў»,— пісала газета.

Свой наказ рэдакцыя пасылала маладому паэту на Астрашыцкі Гарадок. Гэта мяне надзвычай зацікавіла. Пра повязь Янкі Купалы з

Астрашыцкім Гарадком нідзе і ніколі не гаварылася. Захацелася прасачыць яе, тым больш, што мястэчка гэтае даволі славутае сваёй мінулай гісторыяй. Некалі тут звілі сабе гняздо графы Тышкевічы і шмат стагоддзяў уладарылі. Ды і само наваколле Астрашыцкага Гарадка поўнае загадкавых курганоў і пагоркаў. Вакол іх уецца, абвіваецца жывая лясная рачулка. І не адна. Калі глядзіш на ўсе гэтыя таямнічыя краявіды і на высокую, цяпер пустэльную гару ў самім мястэчку, дык міжволі нараджаецца думка, ці не яны абудзілі ў Купалавай душы старажытную легенду пра курган і самі леглі ў яго славутую паэму. Бо чаму ж, калі я зірну на тую высачэзную, пры возеры, пэўна што насыпаную рукамі прыгонных, стромую гару ці кіну пагляд на палац на другім беразе возера — белы хорам графоў Тышкевічаў, дык заўсёды ў памяці паўстаюць радкі:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, —
Ўдзірванелы курган векавечны.

Але не будзем рабіць паспешлівыя высновы, заключэнні. Ці не лепей з'ездзіць у само мястэчка і пагутарыць з мясцовымі людзьмі. А каб гутарка гэтая была грунтоўная, даверлівая, я яшчэ раз перагортваю старонкі «Нашай нівы»: мо напаткаю якія новыя згадкі пра Купалу, пра яго повязь з тутэйшымі мясцінамі. І напраўду,— вось яшчэ адна невялікая нататка ў вераснёўскім нумары газеты за 1908 год з тагачаснай астрашыцкай рэчаіснасці. У ёй расказваецца пра хцівую, неўтаймоўную эксплуатацыю навакольных арандатараў новым камісарам з графскага двара. «Покуль жыла старая графіня,— піша аўтар,— то ўсёй шляхце арэндоўнай і слугам жылося напоў з бядой, і яны верылі, што такія парадкі будуць навекі. Але калі сёлета вясной прыехаў новы камісар М., усё змянілася: падскочыла амаль удвая арэнда, без ніякага права паадбіралі сенажаці ў сялянаў, жнеям з вёскі Б. заплацілі толькі па 30 капеек, калі скрозь ім раней плацілі па 40-50».

Гэтая нататка зацікавіла не толькі сваім зместам. Прыцягнуў увагу і псеўданім яе аўтара — «Сусед з-пад Гарадка». Думаецца, гэта Купалаў псеўданім: сваім ладам і настроем ён аналагічны нашаніўскаму псеўданіму Янкі Купалы «Янук з-пад Мінска», якім ён падпісваў свае допісы ў «Нашай ніве» ў 1907 годзе. На Купалава аўтарства паказвае і ўпамінанне вёскі Б. Ці недалёкія ад Астрашыцкага Гарадка Бараўцы, дзе жыла Купалава маці ў тую пару?

І ўрэшце Купалава аўтарства пацвярджае яго зацікаўленасць дваром Тышкевічаў, яго гісторыяй. Пра гэты двор Янка Купала згадвае і ў ліпеньскай, таксама малазнанай нашым бібліёграфам нататцы за 1909 год, якая так і называецца «Астрашыцкі Гарадок». Падпісаная яна вядомым Купалавым крыптанімам І.Л. (Іван Луцэвіч.— Ул.С.)

З іншых матэрыялаў у «Нашай ніве» зацікавілі паведамленні пра Кавалеўскага П.Ст., які ў 1912 годзе пераслаў з Астрашыцкага Гарадка ў Вільню паўтара рубля грошай на 10 паасобнікаў «Беларускага календара», і пра якогасьці Янку Кажана, што дасылаў у тую ж газету свае карэспандэнцыі.

Зацікавіла і яшчэ колькі асобаў, што пісалі ў «Нашу ніву» з астрашыцкага наваколля пад рознымі псеўданімамі — Недалёкі, Тойсамы і інш. Хто ведае, ці не псеўданімы гэта самога Янкі Купалы? Аднак чытанне «Нашай нівы» яшчэ больш падахвоціла з'ездзіць у Астрашыцкі Гарадок і пагутарыць з кім-небудзь з старажылаў. «Можа, хто памятае пра апісанае Купалам, пашырыць наша ўяўленне пра тыя факты, што ён згадваў. А мо хто і сустракаўся з самім песняром?» З такімі клопатамі я выправіўся ў недалекі цяпер ад Мінска Астрашыцкі Гарадок. Мястэчка крыху мне знаёмае. Жыў тут у пачатку 1960-ых гадоў, але тады і не здагадваўся пра повязь з ім народнага песняра. А шкада! У тую пару жыло яшчэ шмат сведак Купалавых часоў. Ці дажыў хто да 1980-ых?

Аднаго-адзінага, найстарэйшага ў Астрашыцкім Гарадку, мне называюць Пазняка Уладзіміра. Ён з 1898 года і пад той час, калі Купала заглядаў у мястэчка, было яму гадоў дзесяць. Значыць, павінен што-небудзь помніць ці, можа, чуў аб тым, што мяне цікавіць.

Шукаць Уладзіміра Іванавіча доўга не давялося. Жыў ён у самым цэнтры мястэчка, на рагу аўтобуснай плошчы, поблізу школы ў старым дамку.

Дзядзька Уладзімір выдаўся субяседнікам гаваркім і вельмі ахвотна адказваў на мае пытанні. Найперш я прачытаў яму і паказаў той нашаніўскі зварот да Янкі Купалы, які сведчыць пра повязь маладога паэта з Астрашыцкім Гарадком. Ці не чуў ён чаго-небудзь пра гэта? Не, не чуў. А вось што мова местачкоўцаў была дзівосная, дык гэта памятае добра: «Бывала, у нас не скажуць ходнікі ці тратуар, як мы цяпер гаворым, а абавязкова — хадылішча...»

Ясныя блакітныя вочы Уладзіміра Іванавіча лагодна ўсміхаюцца ад гэтай згадкі. Ён сам увесь нейкі пяшчотны, як той жытні колас у час красавання, хоць і пражыў нялёгкае жыццё. Падлеткам, як узяў у

рукі плуг, а пасля кавальскі молат, дык не выпускаў яго да глыбокай старасці. Добра памятае мястэчка той пары, калі тут бываў Купала. Загаварылі пра пошту, загаварылі не з простай цікаўнасці. Хацелася мець дакладныя звесткі пра гэтую ўстанову, з якой Янка Купала пасылаў свае вершы і допісы ў «Нашу ніву», праз якую трымаў сувязь з сваімі сябрамі і з цэлым светам.

Дзядзька Валодзя згадаў, што астрашыцкая пошта даўней мясцілася за мастком, там, дзе галоўная вуліца разбягаецца на дзве,— на пагорку, пры спуску гары, бліжэй да графскіх палацаў. Аловачкам намаляваў схему гэтых вуліц. Але ці не лепей схадзіць на тое месца? Пытаюся, ці змог бы? «Чаму не магу? Магу»,— кажа Уладзімір Іванавіч і павольна, неяк мякка апранаецца. Ідзём галоўнай вуліцай. Яна калісь была часткаю Лагойскага гасцінца, захавала шмат чаго з старой местачковай забудовы.

«Вось тут,— тлумачыць дзядзька Валодзя,— дзе зараз кнігарня, была карчма, шынок з пастаялым дваром; за мастком, на пагорку,— другая, злева — яшчэ адна...»

Я нагадваю, што Янка Купала таксама няблага ведаў Астрашыцкі Гарадок. Можа, хочаце праверыць памяць? То калі ласка — і чытаю пачатак з Купалавага артыкула пра славутасці тагачаснага мястэчка: «...Есць некалькі жыдоўскіх крам, аптэчны магазін, паштова-тэлеграфная кантора, тры вадзяныя млыны, валасная ўправа, народнае аднакласнае вучылішча, царква, і... некалькі піўных, тракцір, і казённая вінная лаўка».

«О, гэтага дабра ў нас хапала,— згаджаецца дзядзька Валодзя.— Адных толькі крамаў ды заездаў даходзіла ў мястэчку да трыццаці...» Неўзабаве мы падыходзім да той спуск-гары, дзе калісь мясцілася астрашыцкая паштовая кантора. «Гэта быў невялікі двухпавярховы драўляны дамок,— расказвае Уладзімір Іванавіч.— Помню начальніка пошты. Усе яго звалі Вахта. Поўнае імя — Вахта Іван Тарасавіч. Калежскі рэгістратар. Любіў цёплай парой хадзіць у белым такім фрэнчы».

Цяпер на колішнім паштовым лапіку агароды Лазарэвічаў. Гэта ў самым канцы мястэчка, пад самую, так званую Цімашэнкаву дачу, колішнюю рэзідэнцыю Тышкевічаў. Нас заўважаюць гаспадары, выходзяць з хаты, пытаюцца, чым мы зацікавіліся. І вельмі дзівяцца, што некалі менавіта тут была астрашыцкая пошта, што якраз адсюль Янка Купала пасылаў свае вершы і допісы ў «Нашу ніву», а сюды прыходзілі яго лісты да маці, калі ён жыў у Яхімаўшчыне і Вільні. Толькі чаму так далёка пошта ад мястэчка, на самым водшыбе?

«А даўней усё цягнулася да двара,— тлумачыць Уладзімір Іванавіч.— Амаль ля самых Тышкевічаў мясцілася і астрашыцкая лячэбніца...» Дзядзька Валодзя распавядае, як яна выглядала, а я тым часам азіраюся наўкола. З паштовага пагорка добра відаць маляўнічае Астрашыцкае возера, уся яго роўнядзь з затокамі, лугавінкамі, тонямі, з векавым ялова-сасновым разлапіста-гонкім маляўнічым лесам, які тут усе называюць Гаёк, на доўгай, выцягнутай падковаю паўвыспе, што разгоніста ўбілася ў водную прастору і выскачыла на людское вока высокім стромым берагам. Такія ж маляўнічыя далягляды з ляснымі пагоркамі і за возерам. Я кажу дзядзьку Валодзю пра іх таямнічасць, загадкавасць. «А пэўна што,— кажа ён і паказвае на тую, абвітую возерам і сажалкамі пустэльную гару.— А ведаеце, як яна ў нас завецца? Цодаў замак. Раней, як толькі што, дык казалі: «А гэта на Цодавым замку было». Дык Цод тут той ні пры чым. Гаспадар быў такі, і гэтая гара да яго двара ляпілася. А вось «замак» пра нешта гаворыць. Гадоў трыццаць назад яна ўся была аблесеная, па схілах расла ляшчына, асіннік і іншае дзікае кустоўе. А на версе, на паўднёвым схіле,— два векавыя дубы».

Я мусіў перапыніць Уладзіміра Іванавіча. Зноў прыгадаўся мне Купалаў «Курган». З хваляваннем працытаваў уступ да паэмы пра, «дуб каранасты», што галлё распусціў над тым курганом, ды аб мінуўшчыне ў жальбах галосе. Пераказаў змест гэтага Купалавага шэдэўра, а дзядзька Валодзя мне на гэта жывым апавяданнем: «От вы пра Купалу згадвалі, а я ўспамінаю, што мне мама расказвала: «...Балявалі калісь Тышкевічы. Паноў да іх наз'язджалася процьма. На скрыпачках іграюць, віно п'юць, гуляюць, пацяшаюцца, багаццем выхваляюцца, атласамі. А адзін мужык з прыслугі не вытрымаў ды проста ім у вочы: «Графянкі,— сказаў ён ім,— не выхваляйцеся, бо гэты атлас на вас з нас!»

Кароценькае апавяданейка дзядзькі Валодзі, але як жа яно сугучнае з славутай паэмай:

Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
Ці ж прыгледзеўся, хорамны княжа?
Кроў на золаце гэтым людская блішчыць,
Кроў, якой і твая моц не змажа.
Ты брыльянтамі ўсыпаў атласы і шоўк —
Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
Гэта вісельні петляў развіты шнурок,
Гэта, княжа, твае саматканы.

Вельмі можа быць, што маці дзядзькі Валодзі і Янка Купала чулі адну і тую ж легенду, адну і тую ж гісторыю, толькі кожны па-свойму яе расказаў. Ва ўсякім разе астрашыцкая рэчаіснасць з старадаўнім графскім гняздом спарадзіла, мабыць, не адно такое паданне, не адну быль за сваё шматгадовае існаванне. Аднак я не пра ўсё яшчэ распытаўся. Ну, хаця б пра тых жа нашаніўскіх аўтараў з Астрашыцкага Гарадка Янку Кажана і Кавалеўскага, якіх, безумоўна, Купала ведаў, цікавіўся імі, а мо нават сам іх заахвоціў да «Нашай нівы», да беларускай культуры. На жаль, гэтыя імёны нічога сёння не гавораць местачкоўцам. Затое ўсе вельмі ажывіліся, загаманілі, калі я пачаў ім чытаць з Купалавага артыкула апісанне астрашыцкай бальніцы. Асабліва рупіўся дзядзька Валодзя. Літаральна да кожнага радка што-колечы дадаваў. «Кажаце, доктара Сяліцкага Янка Купала згадвае? А мы ж яго ўсе добра ведалі. Сівенькі такі быў, старэнькі. Вельмі добры доктар». «І пра Бабёрку ў Купалы ёсць? То ж яна з маёй мамай таварышкавала. Акушэрка была...»

І чым далей мы чыталі Купалаву нататку, тым гаворка станавілася ўсё больш і больш зацікаўленая, змястоўная. Мае субяседнікі згадвалі пра сваё жыццё, "пра агульных з Купалам знаёмых, пра само мястэчка, якое яно было раней. Нарэшце, калі, здавалася, усе выгаварыліся, зноў ціха, нібы неўпрыкмет, азваўся Уладзімір Іванавіч.

— А ведаеце,— сказаў ён,— мая мама паходзіла з Луцэвічаў, яна сама мне пра гэта казала. У яе было нейкае сваяўство з Луцэвічамі, але якое, я цяпер сказаць не магу. Неяк тады не пацікавіўся, а памерла яна даўно, гадоў шэсцьдзесят таму. Але, памятаю, казала, што Луцэвічам яна была сваячка. Звалі яе Алімпіяда Антонаўна Луцэвіч, паходзіла з шляхты. Пра гэта ў яе пашпарце было запісана.

— А ці захаваўся той пашпарт? — пытаюся.

— Быў. Да нядаўняга быў. У куфэрку з двайным дном перахоўвалі. Але дзе дзеўся — розуму не прыкладу. Засталася толькі фатаграфія.

І ўжо ў хаце мы разглядаем той здымачак. На ім бацька і маці Уладзіміра Іванавіча, ён сам трохгадовы і яго браты Іван і Юзік. Здымаліся ў 1901 ці ў 1902 годзе ў Мінску. Як на той час, дык сямейка не з бедных. Дарослыя і дзеці апрануты ва ўсё крамнае. Алімпіяда Антонаўна ў даволі шыкоўнай сукенцы.

— Надта любіла кнігі,— гледзячы на здымачак, гаворыць Уладзімір Іванавіч.— У 1912 годзе выпісала з Вільні трох польскіх класікаў: Красіньскага, Міцкевіча, Славацкага і пяць рускіх — Гогаля, Пушкіна, Бялінскага, Лермантава, Жукоўскага. Любіў кнігі і мой старэйшы брат Юзік. Ён і на здымачку з кніжкаю. Увесь у маці ўдаўся.

Прыпамінаю, што Юзік нават вершы пісаў... Але, бедаку, не давялося пажыць, памёр у семнаццатым, з сухотаў...

...Вось так штрых за штрыхом, памалу раскручваўся жыццёвы клубок з таго, ужо далёкага Купалавага часу. Але я перакананы, што шмат чого цікавага з Купалавага жыцця так і засталося таямніцаю, лягло яшчэ адным слоем легендаў на тыя курганы, на якія гэтак багатае астрашыцкае наваколле.

## СУСТРЭЧА З ПАПКОЎСКІМІ

Падчас першай пабыўкі ў Бараўцах я бедаваў, што ад фальварка, які арандавалі Луцэвічы, не засталося аніякіх прыкметаў: ані дрэўца, ані кусціка якога ці каменьчыка. Не знайшлося тады ў Бараўцах і чалавека, які больш-менш апісаў бы арандаваную Луцэвічамі сядзібу. Думалася, што ўжо ніколі не ўдасца сабраць хоць якія-кольвек звесткі пра кут, дзе амаль на працягу пяці гадоў наездамі жыў вялікі паэт. Але праўду кажа прымаўка: «Пад нерухомы камень і вада не цячэ». Само сабою нічога не робіцца. Калі ж будзеш рупіцца, то нешта і знойдзеш. Частыя наезды ў Бараўцы, шматлікія гутаркі з жыхарамі падказалі — у Мінску трэба шукаць Папкоўскага, таго самага, які доўгі час жыў у той жа хаце, што і Янка Купала. Вось ён ужо пэўна што ўсё раскажа! Падказалі, што Папкоўскі доўгі час працаваў на мінскім бровары: ці дырэктарам, ці іншым вялікім начальнікам, то імя яго не так проста закінецца. Назвалі нам і яго дзяцей, якія нарадзіліся, жылі і гадаваліся ў той жа хаціне, дзе жыла і сям'я Луцэвічаў. Падумалася, калі не знойдзем часам старэйшых Папкоўскіх, то хоць з малодшымі пагутарым.

Пошукі Папкоўскага пачаліся натуральна з той мясціны, дзе ён працаваў. У аддзеле кадраў піўзавода «Беларусь» яго памяталі, мелі і адрас, нават нумар тэлефона там знайшоўся. Заставалася толькі патэлефанаваць — і жаданае стане яваю. Але была і яшчэ трывога: «Як пачувае сябе Апалінар Антонавіч? Ці зможа з намі гутарыць?» Што ні кажыце — чалавеку восемдзесят пяць. Але трывожыліся мы дарэмна. Апалінар Антонавіч, калі даведаўся, што нас цікавіць, адказаў коратка: «Прыязджайце!» І вось мы з мастаком Міколам Купавам у Папкоўскіх. Жылі яны ўдвух. Гаспадыньку звалі Альжбэта (Лізавета). На пабочныя размовы часу марна не трацім, тым больш — гаспадары ўжо ведаюць, што нас цікавіць. Так, яны пражылі не адзін год у той жа хаціне, у якой жылі Луцэвічы ў 1904-1909 гадах. Дамок той быў не вельмі, каб сказаць, самавіты, але лепшы за сялянскі: прасторны, на два канцы, пад гонтавай страхой. Меў чатыры пакоі,

два хады: светлы і цёмны (чорны). З светлага ходу — высокія, на дзве палавіны, дзверы. Удзень яны ніколі не замыкаліся, толькі на ноч завальваліся на завалу. Што дамок у Бараўцах выглядаў менавіта так, пацвярджае і яго здымак з 1929 года, які, на наша шчасце, ацалеў у ашчадных гаспадароў. Мы разглядаем ўсе яго разам, разглядаем пільна. Такога здымка не меў нават Купалаўскі музей. У вочы найперш кідаедца ганак. Ён пад стрэшкаю, на драўлянай аснове, на апрацаваных — па два, злева і праваруч,— слупках. Ганак з падлогаю з плах, лавачкамі. Лавачкі з спінкамі, перабранымі рэдкімі, як на драбінах, дошчачкамі. Пэўна, на гэтым ганку не адзін раз у роздуме сядзеў Янка Купала.

Пры ганку — невялікі, вымашчаны дробнымі, утаптанымі каменьчыкамі лапік-тачок. Справа падмуроўка вышчарбілася, выветрылася. Тырчаць толькі вызубленыя, нібы ў беспарадку накладзеныя, камянюкі. Ніжні вянок на падмуроўцы вытрухлеў, выгніў. Ды і астатнія ўжо добра ўчарнелі, патрэскаліся. У многіх мясцінах павысыпаліся сучкі і толькі дзюркі ад іх чарнеюць. Вокны, на шэсць шыбін, у няхітрых ліштвах. Гэтак выглядаў арандаваны Луцэвічамі дамок у Бараўцах з вуліцы. А як жа ў самой хаце? «Нічога асаблівага там не было,— кажа цётка Альжбэта.— Стаяў даўжэзны, чалавек на пятнаццаць, стол. Каля яго і ўздоўж сцен шырокія лавы. Адзін пакой, злева ад ганка, абклеены шпалерамі. Гэта была гасцёўня. Ва ўсіх жа астатніх пакоях сцены толькі пабеленыя, але не атынкованыя. Кухня без падлогі, чорная, задымленая. Чвэртку яе займала вялікая печ. У яе можна было за адзін раз пасадзіць аж шэсць боханаў хлеба. Хатка ўдалася цёплая. Грубачкі скрозь стаялі. Была там яшчэ такая ляжаначка — спальню абагравала».

Альжбэта Антонаўна жыла ў Бараўцах прыкладна з 1912 года. «Гадкоў шэсць мне было, як мы пераехалі сюды,— згадвае яна, разглядаючы фотаздымак.— То і зараз усё добра помніцца, нібы гэта ўчора бачылася. Вось тут, злева,— паказвае яна на фотаздымак,— на куце, расла высокая таполя. Такая высокая, што з яе, як узлезеш, былі відаць мінскія агні. А гэта ж за чатырнаццаць вёрстаў!.. Перад хатай расла, памятаецца, крушына. Яе мы называлі яшчэ сабачым бэзам — псінаю пахла... Недалёка ад яго сядзеў куст язміну... Ніжэй пад поплаў расла-красавалася дзічка-груша на дзве верхавіны. З адной грушы былі салодкія, а з другой — так сабе...»

«А за хатай рос вялікі сад»,— удакладняе гаспадар. «На пяцьдзесят пяць дрэў,— дадае цётка Альжбэта.— А колькі парэчак, агрэсту, сліваў, вішняў!.. Вішні і слівы былі ўжо старыя, высокія, што да тых ягад і не дабрацца». Прыгадваюць таксама, што паўз сядзібу, злева,

ішла дарога праз поле: трэба ж ездзіць, дабро вазіць. Дык пры той дарозе расла вялікая густая ліпа і два старыя клёны. З клёнаў вясною сок бралі. А ўлетку пад шатамі гэтых дрэў добра было жнеям дух перавесці. Гэты куточак называлі Ліпкамі. І яшчэ прыгадваюць недалёка ад хаты стары, закінуты сярод бярозавага гаю з адной ялінкай каталіцкі могільнік з каплічкаю. За іх памяццю каплічкі ўжо не было, толькі крыж з яе ляжаў у свірне на кроквах. Сядзібныя палеткі атуляў лес Холма. Ну, а якая забудова на сядзібе? І тут перад намі паўстаў цэлы гаспадарчы свет. Быў ток з манежам. Да яго хадзілі праз сад. Была варыўня — пад бульбу і капусту; свіран — пад збожжа, скляпок, абора з аўчарнікам, пуня — пад сена, лазня, вяндлярня...усё, што патрэбна, каб весці гаспадарку, саміх сябе карміць, даглядаць, абуваць, апранаць, грэць. Сядзіба праіснавала да 1937 года, калі яе купіла астрашыцкая пякарня. З той пары і пачала яна спакваля знікаць. Яшчэ пасля вайны тут пра сядзібу нагадваў сад, ці больш дакладна, яго рэшткі. Зараз жа апусцелы і бязлюдны пашрак засявае збажыною саўгас «Бальшавік», да якога належаць Бараўцы.

Пакуль мы гутарылі, падышоў сын Папкоўскіх — Мечыслаў. Яго ў Бараўцах нам назвалі Мечыкам. Ён таксама гадаваўся ў той жа хаціне, у якой калісь жылі Луцэвічы. Сам цікавіцца гісторыяй Бараўцоў і наогул сваім родам. Працуе выкладчыкам у медыцынскім інстытуце на кафедры туберкулёзу. Ён далучаецца да нашае гаворкі, удакладняе пачутыя ад бацькоў звесткі. Прыгадвае, што сядзіба была абнесена частаколам, часткова — жардзінамі; што ў самай нізкай і вузкай мясціне між пагоркамі меўся драўляны масток з парэнчамі. Вясной жа тут скрозь вада журчэла, з усіх пагоркаў яна сюды ляцела, залівала поплаў увесь.

Каля хаткі сівец, аер, куп'ё,
Лаза, корчык, гніллё,
Каля хаты дарога ідзе...

Мечыслаў расказвае і адначасова малюе планы сядзібы, дамка, пазначае, дзе што мясцілася, што магло прывабіць паэтава вока, душу. З увагаю слухае апавяданне і мастак Мікола Купава. На матавым здымку Папкоўскай гары, які мы зрабілі ўлетку, яго рука таксама ўсе гэта пазначае. Штрых за штрыхом і голы, як бубен, пагорак набывае выразнае аблічча, абрысы абжытага кута. Перад намі ў мастакоўскай выяве паўстае з усёй сваёй утульнасцю колішняя бараўская сядзіба.

Хоць гэта толькі эскізы, але ўжо яны даюць уяўленне, як тут жылося Луцэвічам, як тут пачуваў сябе Янка Купала...

Дамаўляемся, як толькі пацяплее, настане лета, дабяромся як-небудзь да Бараўцоў — і ўжо на месцы Мечыслаў больш падрабязна ўсё пакажа і раскажа.

## ДУБ З ДУБІХАЮ

Сваё жаданне наведаць Бараўцы мы здзейснілі летам 1985 года. Выбраўшы пагодны жнівеньскі дзень, утраіх, на роварах, выбраліся з Мінска. Кожны з нас ехаў у Бараўцы з сваім намерам. Мечыславу хацелася найперш прыгадаць маленства, ну і нам дапамагчы. Міколу Купаву трэба было агледзець ацалелыя краявіды, каб больш-менш дакладна перадаць на малюнку ўсе дэталькі колішняга бараўскога фальварка. Я ж спадзяваўся што-кольвек пачуць новае пра Купалу і мясціну, дзе ён жыў. То кожны з нас сваё атрымаў. Мечысь сапраўды натхнёна пахадзіў па сцежках свайго маленства, няблага зарыентаваў Купаву на мясцовасці. Ну а я запісаў у свой нататнік пару новых штрыхоў з колішняй бараўской рэчаіснасці. Высветлілася, што поблізу сядзібы на ўскрайку балотца, сярод хмызоў, яшчэ перад апошняй вайной шумела колькі выносных стройных соснаў. І пра Купалаў дубок на поплаве пачуў сёе-тое новае. У Купалаў час, высветлілася, ён рос не адзін, а ў пары. Побач стаяў яшчэ адзін прыгажун, яшчэ адзін волат. Дуб і дубіха. Іх голле нават дакраналася адно да аднаго. «Гэта была прыгожая пара,— згадваюць бараўскія людзі.— Але яшчэ да вайны, як вялі лінію, то нешта адзін з іх замінаў і яго спілавалі. І другі,— удакладняюць, — таксама папсавалі. Ён колісь больш стройны быў, чым зараз. Бачыце, прагал між верхавінамі? То ў прагале гэтым расла яшчэ адна галіна. Але і яе спілавалі. Мусіць, таксама замінала». Цяпер і я прыкмячаю, што ацалелы дубок якісь аднабокі. Але і такі ён, трохі скалечаны і аўдавелы, памятка і пра даўно мінулыя часы, і пра Купалу, нашага песняра. Згаданыя дубкі на поплаве перад сядзібаю, выносныя сосны на ўскрайку балотца, безумоўна ж, былі ўкрасай Бараўцоў, іхняй адметнасцю. Такімі Бараўцы памятаў Купала, такі іх вобраз ён насіў у сэрцы.

Таксама ацалеў і Анцілевічаў дуб. Ён нагадвае нам пра Малыя Бараўцы. Прыгожая купка дубоў і пры заездзе ў вёску. Бараўскія людзі хоць і жылі сярод лесу і цяжка працавалі, але ўсё ж дбалі пра хараство свайго селішча. Гэтае дбанне адчуваецца і сёння.

## З САХОЮ, ПЛУГАМ І ПЯРОМ

«Поле. Неба яснае. У недалёкай зялёнай дуброве кукуе зязюлька. Мужык арэ. Конік, малы і худы, штомінуту прыпыняецца. Над галавою аратага пяюць жаваранкі...

Гэйжа, борозною,
Косю мой маленькі,
Гэй жа, за сохою
Селянін худзенькі!»

Так пачынаецца пяты раздзел «Адвечнай песні» — паэмы, якая, як ужо не раз згадвалася, напісана Янкам Купалам у Бараўцах.

Луцэвічаў у Бараўцы прывялі пошукі зямлі-карміцелькі, хай сабе і арандаванай. А якая яна была, зямелька, у Бараўцах? Як радзіла? Хто ж зараз нам лепей пра гэта раскажа, як не Папкоўскія, якія не адзін год гаспадарылі на той жа зямлі, што і Луцэвічы. З гэтай нагоды я завітаў да іх яшчэ раз.

«Без хлеба не сядзелі,— расказвае цётка Альжбэта.— Было і да хлеба. Дасі гною ды разы два-тры поле страіш, пераарэш, абробіш яго, зробіш пульхным, што і заяц не прабяжыць, дык і зямелька ўродзіць. Але і поту брала. А што тады давалася без поту? Ці сена выкасіць. Ці збажыну змалаціць — ўсё з потам.

Зямелька ў Бараўцах гарыстая, камяністая, прасіла працы і працы. І сілы на яе ніхто не шкадаваў. Ні малыя, ні старыя. Кожны ведаў: папрацуеш — нешта і на зіму будзе. І вясною не давядзецца зубы на паліцу класці».

Не адзін раз бараўскія людзі бачылі Яся Луцэвіча з плугам — у белай кашулі, босага, ступаў па свежай раллі, панукваючы на коніка ды пашморгваючы за лейчыну, хоць праца на гаспадарцы не вельмі яго вабіла. Вабіла не вабіла, але турбавала. 2 ліпеня 1909 года Купала пісаў у «Нашай ніве»: «Ураджаі ў нашай старане сярэднія: не ўдалася толькі канюшына і сенажаці, трава яшчэ саўсім малая і касьба начнецца хіба яшчэ не скора. У дварах, дзе касілі ўжо бывала, перад Купалам, цяпер не думаюць зараз на Пятра пачынаць». Цікавыя Купалавы звесткі і пра агульны стан гаспадаркі ў тутэйшай акрузе. «Акалічныя сяляне і дробная шляхта гаспадарыць някепска,— зазначаў Янка Купала ў нашаніўскай нататцы за 23 ліпеня ўсё тага ж 1909 года.— Нідзе ўжо не ўбачыш ні сахі, ні дзеравяннай бараны; багацейшыя маюць нават жняяркі і конныя граблі, з якіх і

бяднейшыя нават карыстаюцца. Сеюць усялякія травы і маюць добрых коней і кароў...»

Янку Купалу за плугам не адзін раз бачыў бараўскі чалавек Міхал Лабаты. Ён і расказваў пра гэта Папкоўскім. «То, можа, і гару гэтую лепей нам называць надалей Купалавай? — пытаюся я ў Папкоўскіх.— У крыўдзе не будзеце?»

«Чаго нам крыўдаваць,— кажа цётка Альжбэта.— Луцэвічы раней за нас там жылі, то хай бы сабе і звалі той пагорак Купалавай гарою. Купалу ж ведаюць усе, а пра тое, што мы там жылі, хутка забудзецца. Яе Папкоўскай таму і завуць, што мы там апошнія жылі. А як сыдуць тыя людзі ў Бараўцах, што нас яшчэ трохі памятаюць, пра нас і забудуцца. То хай бы сабе тая гара і была Купалавай. Ён жа там жыў, пісаў, хадзіў, думаў».

Мае думкі сугучныя з думкамі Папкоўскіх. Я ўжо даўно называю тую гару ў Бараўцах Купалавай. І усім знаёмым пра гэта кажу. А ці замацуецца гэтая назва, залежыць ад прыхільнікаў яго таленту: будуць хадзіць да той гары на паклон як да самога Купалы — і я ўпэўнены — найменне прыжывецца.

## «ЖАЛЕЙКА»

Цяпер, пасля новых росшукаў, маем большае ўяўленне пра Бараўцы ў Купалаву пару, як яму жылося, пісалася, якія грамадскія і літаратурныя падзеі ён перажыў. Але гэты малюнак будзе вельмі няпоўны, калі не згадаем, што рукапіс сваёй першай кніжачкі Купала ладкаваў таксама ў Бараўцах.

Два леты ці больш рыхтаваў Янка тут свой першы зборнік. У Бараўцах яму было суцішна, добра, ніхто не замінаў. Заўсёды побач, у Казіміраўцы, і яго літаратурны настаўнік. З ім можна пра ўсё параіцца, абмеркаваць. Самойла, як вядома, і натхніў паэта на гэты зборнік. Дзесьці ўвосень 1906 года рукапіс першай кніжкі Купала падрыхтаваў. Заставалася толькі передрукаваць вершы. У Бараўцах, вядома ж, зрабіць гэта было немагчыма. Знайсці талковую машыністку заручыўся ўсё той жа Уладак Самойла.

Неўзабаве такую машыністку знайшлі. Ёй сталася спадарыня С. Свірноўская з Мінска.

Назва зборніка даўно была Купалам вынашана, падрыхтавана. «Багушэвіч меў «Дудку», Цётка — «Скрыпку». Хай жа мая кніжачка завецца «Жалейка»,— падумалася яму.

Грай, мая жалейка,

Пей, як салавейка!
Апявай нядолю,
І грымі свободна,
Што жыве край родны!

Дудкамі ды жалейкамі поўнілася тады ўся беларуская зямля. Гэта быў даступны кожнаму пастушку, кожнаму хлапчуку інструмент. Ля кожнай вёсачкі, ля кожнага засценка на лужках ды выганах пастушкі засяроджана выцінаалі журботныя напевы. Бараўцы не былі выключэннем. Пілікане бараўскіх пастушкоў на дудках далятала штодня да вокнаў Купалавай хаты. То і «Жалейка».

«Жалейка» пабачыла свету з-пад друкарскага варштата ў сакавіку 1908 года. Янка Купала гэтай парою дапрацоўваў свой апошні броварскі сезон у Дольным Снове. У друку з'явіўся шэраг водгукаў на гэтую кніжку. Асабліва ўсцешыла аўтара слова пра «Жалейку» Уладзіміра Самойлы. «Песні Купалы,— пісаў той 15 жніўня ў «Нашай ніве»,— гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь!». І хто раней не верыў, што беларускі народ мог прачнуцца і пайсці сваёй уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы яшчэ не ўмёрлі, яшчэ маюць сілу жыць і развівацца... Мы шчыра падтрымліваем добрае жаданне песняра. Няхай яго думкі, «думкі-весялушкі», што ў сэрцы паэта народнага, «нібы птушкі песняй азваліся», знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вясковага беларуса. Няхай «Жалейка» будзідь народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачынацца ад векавога сну, жыць новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!» У другой рэцэнзіі Уладзімір Самойла выхад Купалавай «Жалейкі» назваў вялікім святам беларускага народа.

Гэтыя водгукі прыспелі Купалу ў Бараўцах. Якраз тое лета, як і папярэдняе, ён бавіў у маці. Узрушаны шчырым словам свайго літаратурнага настаўніка, Купала 22 жніўня 1908 года завяршае і сваю «Адвечную песню» — твор, які ўсімі сваімі рэмаркамі, краявідамі, вобразамі прывязаны да Бараўцоў. Тут і бараўская дзічка-груша, і зялёная дуброва з зязюлькай, і залітая паводкай бараўская сенажаць, і старыя бараўскія могілкі, якія і навеялі Купалу думку напісаць «Адвечную песню» — твор пра сялянскую долю-нядолю, пра жыццёвы шлях мужыка ад яго народзін і аж да труны.

## «ЯВАР»

За пакутнай за гарою
Ўзнёсся явар адзінокі
Іківае галавою,
Ўсё ківае ў свет далёкі.

Колькі, бедны, крыўды мае!
Колькі жалю ў гальным шуме!
Хто падгледзе, ўсё згадае,
Ўсё прочуе ў соннай думе.

Пад гэтым вершам, упершыню надрукаваным у «Нашай ніве» 1 кастрычніка 1909 года, ёсць памета, што Купала напісаў яго ў Бараўцах. З першых строф здаецца, нібы гэта прыродаапісальны твор. Але спакойнае элегічнае паэтава слова пераконвае: размова зусім і не пра явар, а пра штосьь больш глыбіннае, гістарычна важнае, што хвалявала песняра.

Смуцен явар. Змагаць-біцца
Сіл замала з непагодай —
Па лісточку, па галінцы
Ўсё губляе з кожным годам.

Гэй, і явар жыў на дзіва,
Паглядаў у свет з адвагай,
Быў ён князем гэтых ніваў,
На ўсім свеце меў павагу.

Ад узгорка да ўзгорка —
Ці там сонейка, ці вейка,
Ці там солодка, ці горка —
Помніць явара жалейка.

І ў дзень будні і ў нядзелю
Ён з людзямі са сваімі.
Колькі песень аб ім спелі!
Колькі ў песнях яго імя!

Збеглілеты за лятамі.

Як не нашы, нашы песні;
І мы самі, як не самі.
А наш явар? Аж балесне...

Так, верш «Явар» — гэта элегічная паэтава развага пра Беларусь, пра яе цяжкі гістарычны лёс, пра слаўнае мінулае, калі явар пачуваў сябе князем, ва ўсім свеце павагу меў, але спакваля «па лісточку, па галінцы» сілу траціў, і дажыўся край наш родны да таго, што «песні нашы, як не нашы, і мы самі, як не самі». Дата напісання гэтага верша 26 чэрвеня 1909 года. Гэта была адна з апошніх пабывак Янкі Купалы ў Бараўцах. Неўзабаве паэтава маці аблюбуе сабе на арэнду новы фальварак, і мы ўбачым нашага песняра ўжо ў Акопах.

...За пяць бараўскіх гадоў Купала пасталеў. З худзенькага, сарамлівага Яся Луцэвіча зрабіўся слынным беларускім песняром. Ён ужо ў бараўскую пару пачуваў сябе ўладаром беларускага слова, беларускай песні. Тады ж ён насіў ужо ў сваім сэрцы ўсю Беларусь «неаб'ятну, як мора» і яе шматпакутны народ з усёй яго гістарычнай драмай. Не раз і не два яго вусны шапталі:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
Ў агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
.................................................
А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Малюнак абуджанага народа паўставаў перад Купалавымі вачыма ўсюды, дзе б ён ні быў, дзе б ні ішоў — у Бараўцах, вядома, таксама. Імя роднай старонкі ў тыя гады не сыходзіла з Купалавых вуснаў. Яе голас чуўся яму ўсюды і ва ўсім:

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь, —
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Купала і з маленькіх лясных Бараўцоў больш бачыў, чым іншыя з вялікіх гарадоў. Веска гэтая ў 1904-1909 гады была для Купалы, дзе б ён ні быў, дзе б ні жыў — у Вільні, у Пецярбургу ці яшчэ дзе, яго домам, яго юрыдычным адрасам. Сюды пясняр пяць гадоў насіў свае

радасці і засмучэнні. Адпачыўшы, супакоіўшыся, ураўнаважыўшыся, напрацаваўшыся ўдосталь у вясковай цішы, ён зноў кідаўся ў жыццёвы вір, каб красаць новыя свае агністыя вершы-заклікі, вершы-роздумы.

## ЯК У ГАРОСЕ ЗАБІЛІ ЛОСЯ

Не раз і не два я наведваў Бараўцы і суседнія з імі вёсачкі. І заўсёды чуў штосьці новае. Аднаго разу напаткаў у Бараўцах спадарыню Марыю Баравец. Разгаварыліся. Сама Янку Купалу не бачыла, не сустракала, а вось яе тата, Міхал, Купалаў равеснік, шмат чаго расказваў ёй пра Луцэвічаў. Яны былі суседзі, дружылі. Тата меў кларнет. А Купала любіў музыку. Пасучы разам коней, рабілі з белай бяросты невялікія карабкі. Купала таксама рабіў іх. Надзярэ бяросты, згорне яе адпаведна, коранем тонкім прашые — і гатовая шкатулачка-берасцяначка: для іголак, нітак, гузікаў ці яшчэ для якой там драбязы. Зверху, на накрыўку, вечка, сякерку-ручку ўмацуе. І калі ласка — аздоба, украса ў хаце.

Гэтае невялічкае Марысіна апавяданейка нечаканае ў Купалавай біяграфіі, хаця вельмі і натуральнае. Жывучы на вёсцы, Купала мусіў усё рабіць, усё ўмець.

Пачуў я ад Марыі і яшчэ адну цікавую згадку. Нібыта Купала, пасучы тых жа коней, аднаго разу склаў пра бараўцоў вельмі вясёлы, дасціпны верш-байку. Колісь яе дзеці вельмі любілі слухаць. Называлася «Як бараўцы забілі лося ў гаросе». Ну, а забіўшы, пачалі дзяліць. У тым вершы Купала нікога не прапусціў, ні пра каго не забыўся, хто чаго варты. «Вельмі вясёлы вершык быў і складны,— кажа Марыя.— Помню толькі: калі чалавек добры — яму робры. Ну і для кожнага нешта было. Гэтаму рогі — бо не ўступае дарогі. А тым здор — бо дзяцей поўны двор... Ну яшчэ шмат чаго такога. Каб хто старэйшыя вам расказалі. Тыя шмат чаго пра Купалу ведалі, але пазміралі».

Што ж, вельмі верагодна: такі верш з народнага вытоку ў Купалы мог быць. Шкада толькі, што ў зусім блізкія ад Мінска Бараўцы ніхто: ні адзін паэт, ні журналіст, ні даследчык за ўсе гады — ні даваенныя, ні пасляваенныя — не завітаў. Гэтак і панеслі ў вечнасць бараўскія людзі нікім не запісаныя згадкі пра Купалу, пра гэты дзівосны край. І ўсё ж, як бачым, хоць праз сярэдняе пакаленне людзей сёе-тое пра жыццё песняра ў Бараўцах да нас дайшло, і ў тым моц народнай памяці.

## СТАРАЯ ПЕСНЯ НА НОВЫ ЛАД

Бараўцы была колісь в`ска песельная. Спявалі тут і старыя і малыя. І з самай рознай нагоды. Радыё ды тэлевізіі даўней не было і даводзілася самім сябе цешыць і весяліць. То і весяліліся. Меліся тут свае музыкі. Пра аднаго з іх — Міхала Асіновіча — ужо згадвалі. Меў скрыпку і яго брат, Рыгор.

Дужа любілі ў Бараўцах вясёлую, з скокавым рытмам песню «Былі ў бацькі тры сыны». Яе неаднойчы чуў Купала. У 1907 годзе ён напісаў і надрукаваў у «Нашай ніве» на матыў старой песні новую. Ён яе так і назваў — «Старая песня на новы лад».

Былі ў бацькі тры сыны,
Ды ўсе ж яны Васілі.

Адзін служыць у дварэ,
Поле панскае арэ;

Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засвістаў,

Трэці згінуў у баю
За свободу і зямлю.

Бацька ў вёсцы сваёй спіць,
І дуда пры ім ляжыць;

Ён часамі дзьме ў яе,
Песню нудную пяе:

Ой, ты, дудка, ой, дуда!
Бяда жыці мне, бяда!

Не вяселіш ты мяне
Ў маёй бедной старане.

Песня «Былі ў бацькі тры сыны» дажыла ў Бараўцах да нашых дзён. 16 кастрычніка 1992 года, амаль праз дзевяноста гадоў пасля пераезду Луцэвічаў ў Бараўцы, пасля напісання Купалам «Старой песні на новы лад», я запісаў:

Жылі ў бацькі тры сыны.
Ух я!

І звалісяўсеяны Васілі.

Ух я!

Адзін лапці пляце.
Ух я!

Другі коні пасе.
Ух я!

Трэці сядзіць на камені.
Ух я!

Дзяржыць дуду на рамені.
Ух я!

Ох ты, дудка мая!
Ух я!

Весялушка мая!
Ух я!

Весяліла ты мяне.
Ух я!

На чужой старане.
Ух я!

Як павесіў я дуду.
Ух я!

На дубовым на суку.
Ух я!

Дуда з дуба звалілась.
Ух я!
На кусочкі разбілась.
Ух я!

Я да маці, да ног.
Ух я!

Мне і мамка пірог.
Ух я!

Я да бацькі да ног.
Ух я!

Мне і бацька пірог.
Ух я!

Назбіраў пірагоў.
Ух я!

Сем сот карабоў.
Ух я!

Марыя Баравец згадала, што пад гэтую песню бараўская моладзь ладзіла калісь вясёлыя танцы. «Скакалі,— удакладняе яна,— як «Камарынскага» ці «Барыню», з прытупамі».

## КУПАЛЬСКІЯ НАПЕВЫ

Канчаткова сваё літаратурнае імя Янка Купала асэнсаваў і замацаваў, пэўна ж, у Бараўцах. А перад гэтым была рада з Уладакам Самойлам. Абодва памеркавалі, што лепшага псеўданіма і не прыдумаеш. Нарадзіўся на Купалле, на Яна, то быць Ясю Луцэвічу Купалам. Сам Бог паслаў яму такі псеўданім. З гэтай нагоды Купала меў вялікую цікавасць да купальскага свята, да купальскіх абрадаў, песняў, рытуалаў. Якія ж песні мог чуць паэт ў Бараўцах? Ці памятаюць іх тут зараз?

Некалькі купальскіх песняў згадвае вядомая ўжо чытачу Марыя Баравец. Сярод іх — «Сёння Купала, заўтра Ян», «Купалка», «А ў саду ў зеляненькім». Першую з іх мы ўсе больш-менш ведаем. А вось іншыя варта паслухаць:

Сядзіць купалка на плоце,
Яе галоўка ў злоце.
А дай жа, Божа, пагоду
Гэтай купалца выгоду.

***

Сядзіць купалка на тыночку,
Яе галоўка ў вяночку.
Прося ў Бога пагоды
На гэтую летнюю ночку.
Будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі гуляці.

Будуць дзевачкі гуляці,
Купале песні співаці.
Купале песні співаці,
Будуць вяночкі звіваці.
У вяночку купалка сядзела,
На тое дзіва глядзела.

Гэтыя песні Марыя Баравец пераняла ад сваіх продкаў. «Бабка пела, мама пела... Ад іх навучыліся і мы,— кажа з годнасцю спадарыня.— На Купалле ў Бараўцах спявалі таксама «А ў саду ў зеляненькім».

А ў садуў зеляненькім
Шызы голуб брукуе:
Паніч паненку любуе,
Ёй сігнэлік даруе.
А яна яму вяночак:
«Едзь жа, панічак, дадому,
Не заязджайся к нікому:
Бо мой вяночак утраціш,
Вараным конем неўплаціш".

Скончыўшы «А ў саду зеляненькім», спадарыня Марыя праспявала яшчэ тры купальскія песні — пра саму Купальскую ноч:

Купала —
Пятрова ночка мала.
Купала —
Усю ноч не спала,
Ніткі сукала.
Купала.
Купала —
Ніткі сукала,
Паясы ткала.
Купала.
Купала —
Ручнікі ткала,
Сватоў чакала.
Купала.

***

Пятрова ночка маленька,
Не виспалася паненка.
Ягадкі рвала — драмала.
Перабірала — заснула.
Перабірала — заснула,
Ехаў малойчык — не чула.
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў яблычкам — не папаў:
«Што ж ты, дзевачка, не чуеш,
Што ты ў роўным полі начуеш?»

***

Купала —
Пятрова ночка чараваная.
Купала.
Купало —
У саду гуляла,
Кветачкі збірала.
Купала.
Купала —
Кветкі збірала
Купала.
Купала —
Яна макала.
Яна чакала...

Спадарыня Марыя згадвае, што даўней у Бараўцах спявалася шмат прыпевак пра Янку. Не пра Купалу, вядома. І ўсё ж:

Я на ганку стаяла
Дый на Янку міргала:
«Прыйдзі, прыйдзі, Яначка,
Я твая каханачка».

***

Ой, мамочка, мамочка,
Любіў мяне Яначка.
І я яго любіла
І хустанку згубіла.
А хустачка на ганачку,

Каму сорам — Яначку.
А хустачка на другім,
Каму сорам — абаім.

У арэале гэтых песняў ды частушак жыў Купала, натхняўся, складаў свае ўзнёслыя, прасякнутыя народным духам вершы. Між іншым, апрача вядомага псеўданіма Янка Купала, Янук Купала, аўтар «Жалейкі» зрэдзь карыстаўся і фіктонімам Я. Купальскі. Нарадзіўся на Купалле, то і Купальскі.

...Купала, Купалле, Купалейка, Купалава свята, Янаў дзень. Бараўскія людзі ведалі і любілі гэтае свята. Як і ўсюды, тут у купальскую ноч дзяўчаты плялі вянкі, пускалі іх па вадзе, гадалі пра сваю долю, спявалі песні, вадзілі карагоды, хлопцы і дзецюкі палілі пад самае неба зыркія вогнішчы, да самага досвітку шукалі ў дрымотным лесе таямнічую папараць-кветку. Звычайна ў Бараўцах правілі Купалле на лугавіне, ля сажалкі, якраз насупраць арандаванай Луцэвічамі сядзібы. Тут для гэтага свята было ўсё: і пагоркі, каб каціць з іх запалення колы, тут жа з крынічкі цурчэла і ручаінка. Сажалку абступалі чарот, аер. А на сажалцы — чароўныя лілеі. Адным словам, у вельмі рамантычным месцейку жылі Луцэвічы.

## ФАКТ ДА ВЕРША

У 1929 годзе Янка Купала ўпершыню апублікаваў у часопісе «Полымя» свой вершаваны водгук на падзеі 29 кастрычніка 1905 года. Што ж тады здарылася?

Хто ведае нашу гісторыю, той памятае, што 18 кастрычніка на мінскай прывакзальнай плошчы сабралася мірная сходка рабочых, рамеснікаў. Тым не менш губернатар Курлоў даў загад расстраляць мітынг. Было шмат скалечаных, раненых, забітых. 29 кастрычніка адбылося пахаванне ахвяраў, якое ператварылася ў антыўрадавае шэсце.

Божа наш, Божа, што гэта будзе,
Што гэтак сталі таннымі людзі
Царскія слугі б'юць іх, страляюць,
І сваіх браццяў за сабак маюць.
А за што ж гэта? — ўсё за свободу,
Што ў моры фальшу йшлі шукаць броду.
………………………………………………
Вокал гудзела, як дзе на пажары,

Аж нават сонца схавалася ў хмары.
Сышліся цешыцца з царскага ўказу,
Што ўсім свабоду прыносіў адразу.
Кожны па-свойму судзіць стаў аб гэтым:
Ці указ праўдзівы, ці будзе прасветам
У нашым горы, у нашай няволі,
Ці ўжо кайданаў неўзложаць ніколі?
І ў гэтым можа сказаў хто замнога...
Аж тут зброд царскі, забыўшыся Бога,
Дай жа страляці, як па скаціне, —
За пробліск волі няшчасны люд гіне.

Рэха гэтай падзеі пракацілася па ўсёй Беларусі. Дайшло яно і да Бараўцоў. І не проста як чутка. Тымі кастрычніцкімі днямі ў вёску з Мінска прывезлі труну з удзельнікам гэтай падзеі Хведарам Бараўцом, маладым унтэр-афіцэрам. Мы не ведаем, на чыім баку быў у тыя дні сялянскі сын Хведар Баравец, пры якіх варунках ён загінуў, але ўпэўнены: яго гвалтоўная, заўчасная смерць таксама ўзрушыла Купалу.

На бараўскіх могілках і да гэтае пары захаваўся помнічак пра памятную дату 1905 года.

## АДКУЛЬ БАРАЎЦЫ Ў БАРАЎЦАХ

Жывучы ў Бараўцах, Купала, безумоўна, прыкмеціў, што тут шмат людзей з прозвішчам Баравец. Магчыма, яму надумалася: першыя пасяленцы на гэтай мясціне былі Бараўцы, таму і вёска атрымала такую назву. Аднак пачуў пра гэта зусім іншае.

...Нібыта даўней у Бараўцах жылі адны Асіновічы. А такое прозвішча меў і якісь пан з-пад Бяларучаў ці з саміх Бяларучаў. Дачуўся ён, што бараўскія людзі Асіновічамі завуцца. Не ўпадабаў гэтага: як гэта так, каб нейкія лапатнікі ды аднаго з ім прозвішча былі! Ну і пастараўся перад кім трэба, каб бараўскіх людзей перапісалі на прозвішча Баравец. Вось з той пары і пайшлі ў Бараўцах Бараўцы.

Між іншым, самы ранні надпіс прозвішча Баравец на бараўскім могільніку зроблены на помніку згаданага унтэр-афіцэра Хведара. Бацькі ж яго, пахаваныя побач, хоць яны і памерлі значна пазней, маці, прыкладам, пакінула гэты свет у 1915 годзе,— значацца яшчэ як Асіновічы. Гэта яшчэ адна загадка, як бараўскія Асіновічы станавіліся Бараўцамі, пераходзілі на новае прозвішча.

Праўда, адзін гаспадар не зусім змірыўся з панскаю воляю. Пасля доўгіх клопатаў яму дазволілі карыстацца сваім прозвішчам, але з абавязковым прыдомкам Баравец. То ён так і пісаўся Асіновіч-Баравец. Праз злучок. Як шляхціц які! Цяпер цяжка сказаць, калі адбыўся такі перапіс, перазапіс. Ва ўсякім разе, у даведніку «Списки землевладельцев Минской губернии», які быў выдадзены ў 1889 годзе, яшчэ засведчаны імёны трох Асіновічаў-гаспадароў. Гэта Асіновіч Іван Міхайлаў — меў пяцьдзесят дзесяцін зямлі, Асіновіч Міхал Казіміраў — яго зямельны надзел восемдзесят пяць дзесяцін, Асіновіч Юстыня (па бацьку не пазначана) гаспадарыла на дзесяці дзесяцінах. А былі яшчэ побач з Бараўцамі Малыя Бараўцы. Там жылі пераважна беззямельныя і малазямельныя. Іхнія імёны ні ў якіх даведніках не засведчаны. Але людзі яшчэ памятаюць іх. Гэта Бірулі, Гіронкі, Загавалкі, Лабатыя, Салаўі.

Пра землеўласніцу пані Страйковую, уладальніцу бараўскога фальварка, у згаданым даведніку сказана, што яна належала да рымска-каталіцкай канфесіі, мела ў Бараўцах 115 дзесяцін. Між іншым, прозвішча яе ў «Списке землевладельцев» пададзена як Стржалка. Стржалка Эміля Антонава. Янка Купала ж яе прозвішча ў «Нашай ніве» падае як Страйковая.

Ну, а ўсё ж, скуль жа ў Бараўцах з'явіліся Бараўцы?

«Цяпер цяжка сказаць, калі гэта і як адбылося,— кажуць бараўскія старажылы,— але такі перазапіс калісь сапраўды быў. Ад родавага, векавога прозвішча Асіновіч мы з чыёйсьці ласкі перайшлі на найменне Баравец, па назве вёскі. Цяпер з Асіновічаў у Бараўцах ніхто не жыве, а вось у суседняй Паперні іх поўна».

## БАРАЎЦЫ — АСТРАШЫЦКІ ГАРАДОК

Мне даўно рупіла прайсціся той дарогаю, якой хадзіў некалі Янка Купала з Бараўцоў у Астрашыцкі Гарадок. Але нешта доўга я не мог зразумець тлумачэнні тутэйшых жыхароў. «Можна ісці ў Астрашыцкі паўз Чарцяж,— казалі мне.— Але ёсць больш блізкая дарога. Гэта паўз Бірулёву гару».

Дарогу на Астрашыцкі праз Чарцяж я намацаў і зрабіць гэта было не так ужо цяжка. Гэтая дарога мела выразныя абрысы, ішла з вёскі праз сасновы лес. А вось другую, больш блізкую, аказалася не так проста знайсці. Дзе Бірулёва гара — я ведаў. Гэта за вёскай, за балотцам. Побач, нагадваю, і яшчэ адна гара — Папкоўская. Якраз на ёй калісь мясцілася сядзіба, якую арандавала Купалава маці. Між гэтымі двума разлеглымі пагоркамі невялікі, як шыйка, праход, за

якім доўгая, выцягнутая лугавіна. Вось тут дзесьці і павінна мець пачатак тая, больш блізкая з гэтага кута дарога на Астрашыцкі. Але колькі я ні біўся, прыкметных слядоў шляху не знаходзіў. Мусіў зноў вяртацца ў вёску — а гэта з добры кіламетр — і яшчэ раз распытваць. «Ідзіце ўскрай лугавіны,— сказалі мне,— аж да самага лесу, там шукайце між дрэў тую дарогу і смела шыбуйце па ёй, яна і выведзе вас у Астрашыцкі». І тут жа заўвага: «Цяпер у Астрашыцкі Гарадок мала ходзім, няма такой патрэбы. То і не ведаем, якая цяпер там дарога. А да вайны часцей хадзілі». Такое ўдакладненне трохі насцярожыла: аднаму ды яшчэ зусім нязнанай дарогай ісці праз незнаемы лес не так ужо прыемна. А мушу сказаць, што тутэйшыя лясы хоць і невялікія прасцягам — іх перарываюць шматлікія палеткі, дарогі, выганы — усё ж вельмі глухія, дрымотныя, тояць шмат таямніц, нечаканасцяў, могуць абуджаць у галаве самыя розныя прывіды і фантазіі, асабліва калі ты ідзеш адзін. Але дужа ж хочацца прайсці паэтавай сцяжынкаю, пабыць у тых абставінах, у якіх быў ён, адчуць яго настрой, пабачыць у дарозе тое, што бачыў ён. То што ж вагацца: гайда ў дарогу! І вось я зноў, падбадзёраны бараўцамі, пачынаю шлях ад Бірулёвай гары. Больш пільна аглядаю мясціну і сапраўды прыкмячаю, што праваруч, паўз лугавіну, зямелька на ўзвышак пайшла такім доўгім шнурком. Яшчэ заўважаю, што на гэтым узвышку роўненькім шарком, нібы абсада, расце кустоўе лазы, вольхі. То, пэўна, гэта і ёсць пачатак тае дарогі, якую я шукаю, па якой калісь хадзілі бараўцы, Купала ў Астрашыцкі. Абнадзеены, што нешта такі намацаў, прагна мкну да лесу. І от ужо лугавы след проста нырае ў лясныя шаты. На хвілінку прыпыніўся, агледзеўся. Здаецца, сцежка нішто, не такая ўжо здзічэлая, як мне думалася. Можна, бадай, што рухацца наперад. І я пайшоў і неяк адразу забыўся пра ўсе свае трывогі і хваляванні. І падалося мне, што гэта не я, а сам Купала ідзе, а я толькі дзесь збоку, назіркам. Ідзе Купала сцішана, засяроджана, ловіць зыкі лесу, яго цішыню, вобразы. Ён сам-насам з лесам, з сваімі думкамі, настроямі. Лес дапамагае ходу яго думак. Ды што дапамагае! Ён імі кіруе, стварае яго настрой. Вось праваруч, за паваротка́й, вынырнула грамадка сівых дубоў. Позірк у нямым здзіўленні застыў на іх: магутныя волаты паўсталі якімсьці казачным прывідам з незвычайным перапляценнем жылістага, пакручастага голля, І з душы радок:

Як я лесам іду, зважна думкі сную,
Аглядаю святую дубоў грамаду,
Там, як дома, сабе з пушчай песню пяю,

Зважна думкі сную, як я лесам іду.

Дубоў у лесе,— яго, дарэчы, бараўцы называюць Смалярня — шмат. Нямала іх і пры дарозе на Астрашыцкі Гарадок. Адзінокіх і купкамі. І кожнага не мінеш, ля кожнага мусіш прыпыніцца, пацешыцца, палюбавацца, вокам памацаць, дастаць яго верхавіну. Наогул, дарога з Бараўцоў на Астрашыцкі праз Смалярню падалася мне вясёлаю. Апрача дубоў, разлапістых старых елак радуюць душу і вока лясныя палянкі. Мне іх патрапілася аж чатыры. Усе яны пры дарозе, вясёлыя, у сонцы. Пасля мне раскажуць, што гэта не проста лясныя палянкі. У Купалаву пару на кожнай з іх быў сялянскі двор, была гаспадарка. Тут жылі людзі, сеялі, аралі, напаўнялі гэты глухі кут мерным тады жыццём. І лес гэты не здаваўся такім глухім і нелюдзімым, як зараз. Жылі тут Пашыкі, Халевы, Лапніцкія, Граковічы.

Запрыкмеціў пры дарозе і замшэлы камянюк. Не раз на яго падаў і Купалаў пагляд. А мо сядзеў і адпачываў на ім.

Гэтая глухая лясная дарога як пачалася, так і скончылася нечакана, выскачыўшы на вялікі, сярод пералескаў, палетак. Я агледзеўся наўкола. Перада мною была вялікая нізовіна з бярозавай касою на выспе. Называлася яна, як мне казалі, Чорная Лужа. За гэтай касою беразнячку на пагорку дзесьці схавалася Мар'яліва. Недалёка адсюль, калі рэзка павярнуць управа,— Чарцяж. Дарога далей пабегла з пагорка на пагорак уздоўж маладога бярэзніку. З пагорка я ўбачыў удалечыні снаванне аўтобусаў, легкавікоў. Зразумеў, гэта дарога на Радашковічы, Вільню. А вунь і Касы масток. Бачыліся невыразна і абрысы самога Астрашыцкага Гарадка. Я спыніўся, бо далей дарогу на Астрашыцкі Гарадок ведаў як свае пяць пальцаў. На імгненне яшчэ раз прыжмурыў вочы, кінуў пагляд на дарогу, і мне зноў у суладдзі гэтых бяроз уявілася стройная Купалава постаць. Гэта ён панёс на астрашыцкую пошту свае новыя вершы і допісы, каб адтуль даслаць іх у Вільню, у «Нашу ніву». Я глядзеў на паэтаву постаць да той пары, пакуль магло трымаць яго маё ўяўленне. Схамянуўся толькі тады, калі на далёкім пагорку замест постаці ўбачыў дрыготкае марыва. Яно трымцела-скакала сотнямі клетак і клетачак. У гэты момант за спіною ў лесе прарэзліва закрычала сойка. Яна вывела мяне канчаткова з одуму, я крута ўзяў управа і пашыбаваў да таямнічага і такога ж прывабнага як назваю, так і абжытасцю Чарцяжа.

## ЧАРЦЯЖ

Такіх мясцін, як Чарцяж, на Міншчыне зараз ужо, бадай, і не напаткаеш. Гэтыя словы найперш стасуюцца да той, на водшыбе ад вёскі сядзібы, якая надзвычай зручна ўладкавалася на высокім пагорку і ўсім сваім ладам вельмі зніталася з тутэйшым наваколлем. Яна ўся ў прысадах. Вакол яе трава-мурава, векавыя дрэвы. Ні пылу тут, ні гулкай гаманы, ні стукату, ні грукату. Гэта колішні старасвецкі фальварак. Для гарадскога жыхара тут ідылія, цішыня, гармонія і спакой. І нават нейкая таямнічасць, загадкавасць. Пэўна, гэтым яна найперш і прываблівае рэдкага тут падарожнага. Але якое ж жыццё тоіцца за гэтай ідыліяй, за гэтымі старасвецкімі прысадамі? Ці не чулі тут чаго-кольвек пра Янку Купалу? Ці не пакінуў свой след? Пытанні не з неба, невыпадковыя. Пясняр тут хадзіў, не адзін раз кружыў поблізу гэтых мясцін. Сядзіба ж — яго сучасніца. То, можа, тут усё ж чулі пра Купалу?

Адчыняю брамку. Насустрач выходзіць рухавая, цікаўна насцярожаная гаспадыня гэтага, як мне здаецца, такога ідылічнага двара. Хвалю іхні кут, пытаюся, як ім тут жывецца.

— А не скардзімся! Дзяды нашы жылі, бацькі, і мы гэтага кута, як бачыце, не сцураліся.

Прозвішча іхніх дзядоў я ведаю. Калі збіраўся ў Чарцяж, на гэтую сустрэчу, папярэдне паглядзеў сёе-тое з літаратуры. Вычытаў з «Памятной книги Минской губернии» за 1890 год, што ў Чарцяжы ў тую пару жылі браты Міхалевічы, Рахвал ды Іван. Мелі яны сорак дзесяцін зямлі. Нават назваю пацікавіўся, знайшоў у даведніку Івана Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы», што слова «чарцяж» старажытнае беларускае і азначае «поле ці сенажаць на месцы лясных распрацовак». Гэта цалкам адпавядае наваколлю Чарцяжа. Ён з усіх бакоў атулены лясамі. Некалі лясы падступалі пад самую сядзібу, але трэба было сеяць і больш зручную роўную лясную дзялянку, з усходу, пад сонейкам, раскарчавалі і назвалі яе Чарцяжом. Поле тое цяпер роўненькае, як ток. І што яшчэ цікава, яно ўсё ўсеяна белымі, як авечкі, камянямі. Чамусьці ўсе белыя і пляскатыя. Так што ішоў я ў Чарцяж збольшага падрыхтаваны.

На жаль, спадарыня Ніна, цяперашняя гаспадыня, пра Купалаву пабыўку ў Чарцяжы нічога не чула. Яна на гэта замаладая. Але не выключае, што ён тут мог быць. Гэта ж побач — паўтары-дзве вярсты з Чарцяжа да Бараўцоў. Можна сказаць, суседзі! І клопаты ў Міхалевічаў з Луцэвічамі былі адны і тыя ж — адны і другія гаспадарылі, жылі з зямлі. Аднымі дарогамі ездзілі. У адных лясах

грыбы збіралі. Хіба пра гэта больш ведае стрыечная сястра Зіна? Яна і старэйшая, жыве ў Мінску, але часта наязджае ў Чарцяж.

Спадарыня Зіна Міхалевіч і прозвішча сваіх дзядоў ды прадзедаў захавала. У пачатку нашай гутаркі колькі слоў пра сам Чарцяж: ці змяніўся ён, ці застаўся такі, які быў даўней?

Спадарыня Зіна больш за шэсць гадоў жыла далёка ад роднага кута. Жыла не з сваёй волі. У Чарцяж вярнулася толькі ў 1935 годзе. Бегала ў Вярбіцкую школу. Дзяўчынцы, вернутай з пермскай высылкі, цяжка напачатку было з беларускаю моваю. Тады ж яна і пачула ўпершыню пра Янку Купалу ад дзядзькі Якава Міхалевіча. Менавіта ён расказаў Зіне, што побач з Чарцяжом, у Бараўцах, жыў вялікі паэт, пісаў і піша прыгожыя вершы па-беларуску. І чытаў некаторыя з іх. «Гэта і падахвоціла мяне добра вучыцца па-беларуску,— згадвае спадарыня Зіна.— А ці змяніўся Чарцяж? Бадай што не, тыя ж прысады, тыя ж дарогі, той жа лес, забудова, праўда, трохі іншая. У 1928 годзе ў Чарцяжы, перад Вялікаднем надарыўся пажар!» ...Даваенныя Бараўцы спадарыня Зіна памятае. Там жылі іхнія сваякі, і яна была не адзін раз.

Чарцяж — сядзіба даўняя. Такой, якой мы яе бачым сёння, склалася яшчэ ў XIX стагоддзі. Гэтая сядзіба, думаецца, многім з нас дасць уяўленне, як выглядаў і суседні, бараўскі фальварак, арандаваны Луцэвічамі. У забудове, аздобе фальваркавых сядзібаў, пры ўсёй разнастайнасці, былі і агульныя рысы. То, калі хто будзе вандраваць па Купалавых мясцінах у наваколлі Бараўцоў, не мінайце і Чарцяж. Вы атрымаеце вялікую асалоду, наведаўшы гэты найпрыгажэйшы куток Міншчыны.

## «З ГЭТАГА ХЛАПЦА ВЯЛІКІ ЧАЛАВЕК ВЫЙДЗЕ»

Пра Бараўцы і іншыя навакольныя з імі селішчы — Казіміраўку, Чарцяж, Мачаны — Луцэвічы чулі і раней, яшчэ да пераезду ў гэтыя мясціны. Недалёка ад Бараўцоў, ля Мачанаў, на беразе Вячы ў канцы мінулага стагоддзя жылі іхнія сваякі — Дамашэвічы. Янка Купала ў сваёй біяграфіі гэты кут называе фальварак Мачаны. Даследчык жа Купалавай творчасці Кастусь Цвірка ўдакладніў, што згаданая мясціна мела назву Радзькаўшчына. Дык вось гэтую Радзькаўшчыну, што поблізу Мачанаў, Ясь Луцэвіч ведаў з малых гадоў. Адно лета тут гасцяваў у сваёй роднай цёткі Садаліі. Неяк гуляючы, аднаго разу ён натрапіў на прыгожую, сярод лесу, сядзібу. Гэта было лецішча дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Івана Самойлы. Восенню, зімою, вясною Самойлы жылі на гарадской кватэры, а на лета

пераязджалі ў сваю Казіміраўку (Казінец). Самойлы распыталі ў Яся, чый ён, ці вучыцца, ці хоча вучыцца. Хлопчык адчуў, што пытаюцца не так сабе, і сказаў, што пра навуку адно толькі сніць, прагне кніг, чытаў бы іх дзень і ноч. Самойлаў сын Уладак пачаў рыхтаваць Луцэўчыка да паступлення ў рэальнае вучылішча і, мабыць, падрыхтаваў бы, але Ясева парыванне не падтрымаў бацька: не меў за што вучыць сына, ды і трэба быў добры памочнік на гаспадарцы. Але знаёмства з Самойламі не прайшло для Купалы дарэмна. Тыя адчулі ў Яську Луцэвічу здольнага хлопчыка, прарочылі яму вялікую будучыню. Праз усё жыццё не спускалі з яго вока, гадавалі талент будучага паэта. Бацька майго падарожнага Васіль Дзядзюля, якому не адзін раз даводзілася бываць у Самойлавых і бачыць там Купалу яшчэ падлеткам, на свае вушы аднойчы пачуў, як Уладак Самойла, паказваючы гасцям на Янку, што сядзеў у садку і пра нешта гутарыў, сказаў: «З гэтага сялянскага хлапца, панове, вялікі чалавек выйдзе». Адбывалася гэта між 1891 і 1895 гадамі. Самойлы былі досыць заможныя людзі, але вельмі спагадныя да сялянаў. Стараліся, чым маглі, дапамагчы іншым. Асабліва здольным. Нават Самойлава жонка, якая слыла як жанчына грубаватая, уладарная,— графіня! — і тая, калі бачыла нястачу, бяду, няшчасце, дык памагала. Купала часта заходзіў да Самойлаў. Спачатку, калі жыў у Радзькаўшчыне, а пасля з Бараўцоў насіў у Казіміраўку на раду свае вершы. Гэта ж было зусім блізка — усяго якая вярста-паўтары.

Зараз Казіміраўка як селішча не існуе. Знікла яна яшчэ перад апошняй вайной. Дом Самойлаў перавезлі ў суседнія Мачаны, пусцілі пад школу, але вайною гэтая будыніна згарэла. А на сядзібе як памятка пра былых гаспадароў, пра колішняе жыццё, пра Янку Купалу засталіся экзатычныя для гэтага краю дрэвы: срабрыстыя таполі, лістоўніцы ды рознае нязвыклае кустоўе. Цяпер гэта гожая лясная палянка на беразе Вячы. Але назіральнае вока вандроўніка адразу запрыкмеціць, што тут было даўней якоесь жыццё.

...З Бараўцоў Купала пазнаваў і іншыя акалічныя хутары і вёскі, фальваркі і аднаселлі. Найбліжэйшыя з іх — Белае Балота, Сіняя Вада, Малыя Бараўцы, Дафарэнцыя, Мар'яліва. Кожнае з згаданых мясцін у Купалавым жыцці пакінула глыбокі след. Але найбольш глыбокі — прадвызначальны — зрабіла на Купалу, безумоўна, Казіміраўка, яе гаспадары.

## МАР'ЯЛІЎСКАЕ РЭХА

Назву гэтай невялікай, у адну вуліцу, вёсачкі ведаюць усе, каму хоць раз даводзілася ехаць лагойскім напрамкам. Але што гэта за паселішча, чым яно слыннае і ці слыннае, якую мае гісторыю,— на гэтыя пытанні наўрад ці хто адкажа. Давайце ж прыгледзімся да яго больш уважліва, пільна.

Разлеглася Мар'яліва ўздоўж шашы на прадаўгаватым, нібы выспа, пагорку між балотаў, цяпер ужо асушаных, абробленых. Каб меркаваць пра вёску, яе жыхароў, трэба абавязкова зайсці ў яе, пагутарыць з людзьмі, і яны вам раскажуць, што статус вёскі Мар'яліва набыло толькі пасля калектывізацыі. А раней тут быў толькі фальварак, атулены лесам. І меў крыху іншую назву. У афіцыйных паперах пачатку XX стагоддзя ён называўся Мар'явілам (Мар'явіл). Меў усяго сем жыхароў. Цяпер пра гэты фальварак нагадваюць толькі дзве пакалечаныя ліпы ды здзічэлы куст бэзу на паўночна-ўсходнім куце мар'яліўскага пагорка. Часта ездзячы паўз Мар'яліва разважаў: «Яно недалёка ад Астрашыцкага Гарадка і склалася з перасяленцаў з тутэйшых хутароў. Поблізу, за лесам, усяго за кіламетры тры, Купалавы Бараўцы. То ці няма ў Мар'яліве людзей, якія ведалі Купалу, памяталі яго, чулі пра яго?» З гэтым клопатам я і завітаў у вёсачку. Прыгадалася, як нехта мне аднойчы казаў, што тут жыве Ігнат Гіронак з Бараўцоў, то ён павінен што-кольвек ведаць і пра Купалу, і пра Бараўцы той пары. Але сустрэча мая з ім, на жаль, не адбылася: я запазніўся. Незадоўга да майго прыезду ён памёр. Дык што — Мар'яліва і застанецца неасвечанае Купалавым імем, Купалавым духам? А ён жа, адчуваю, тут быў. Шлях яго з Бараўцоў у Астрашыцкі ляжаў поблізу мар'яліўскіх фальваркаў і хутароў. Не можа быць такога, каб Купала абыходзіў іх, не заводзіў знаёмства. Пачуўшы маё шкадаванне, маё расчараванне, што не застаў жывога Гіронка, вельмі бойкая бабулька, якая назвала сябе Вандай Скваркоўскай, спыталася, а чаго я ад яго хацеў. Адказаў, што цікаўлюся Купалам і людзьмі, якія ведалі яго.

— Так, Гіронак мог што-кольвек расказаць,— пагадзілася бабка Ванда.— Ён ведаў Купалу, сябраваў з ім, разам коні вадзіў на начлег. Але і мы можам расказаць тое-сёе... Сама я родам з Харужанцаў і калі-нікалі бачыла там Янку Купалу. Праўда, мы яго тады яшчэ так не звалі. Калі што якое трэба было, дык казалі: «Луцэвіч ці пане Луцэвіч». Ён часта да сястры сваёй прыязджаў — Марыі Аўлачынскай, якая жыла ў Ляўшове. Так іхні фальварак называўся. Ён на канцы Харужанцаў быў. То там мы найчасцей і бачылі Купалу. Помню, калі

Аўлачынскія снедаюць ці палуднуюць, а з імі Ясь Луцэвіч, а дзеці з вуліцы зойдуць, дык Купала падымецца і гэтых дзяцей на сваё месца пасадзіць: «Ешце!» Што болей ? Гаспадаркай не цікавіўся, не глядзеў. Коні ў аўсе, а ён хоць бы што... Галаву паверне — і пайшоў. Вось што я вам магу расказаць,— скончыла сваё апавяданне бабка Ванда. І тут дадала: «У Мар'яліве жыве далёкая Купалава сваячка — Чахоўская Марыя. Яна, як і я, з шостага году. То давайце да яе сходзім».

Вось чаго ўжо чаго, а зусім не чакаў, што ў Мар'яліве, праз якое я езджу і хаджу ўжо з добрыя два дзесяткі гадоў, яшчэ і напаткаю Купалавых сваякоў. Калі ішоў у двор, усё не верыў, што зараз убачу аднаго з блізкіх Купалу людзей. Але гаворка з Марыяй пацвердзіла, што яна больш-менш па-сямейнаму дасведчана пра Купалу. Самога ёй мала даводзілася бачыць, больш чула пра яго — яна ж нарадзілася і гадавалася ў сям'і Дамашэвічаў.

Згадаем, што сям'я гэтая жыла ў Радзькаўшчыне. Пра Купалу і Дамашэвічаў цікава апавядаў паэт Кастусь Цвірка ў нарысе «Радзькаўшчына», надрукаваным у кнізе «Той Курган векавечны» (1985). Я пазнаёміў цётку Марыю з гэтым нарысам. Яна ведае ўсіх згаданых у ім Дамашэвічаў. «Мая бабка,— дадае Марыя,— і Купалаў бацька былі родныя брат і сястра». Большага ад цёткі Марыі, на жаль, не пачуў. Аднак і бабка Ванда і Марыя — людзі наезджыя ў Мар'яліве. А ці няма каго з тутэйшых, хто б ведаў пра Купалу?

«Цяпер няма. А былі. Скваркоўскія з Чорнай Лужы»,— гэта да нашай гаворкі далучыўся Ліпніцкі Антон, які, заўважыўшы гурт людзей, а з імі незнаёмага, падышоў да нас. «Фалька Скваркоўскі расказваў, што Купала, калі хадзіў з Бараўцоў у Астрашыцкі, заходзіўся да іх. Гэта яму было па дарозе. Фэлька ўмеў на скрыпачцы іграць, дык Купала зойдзе, а той яму пайграе. Пасядзіць, паслухае і далей пайшоў. Пра гэта мне сам Фэлька расказваў, калі мы разам кароў пасвілі». Цікаўлюся, а дзе цяпер той Фэлька, ці жыве? «Дзе там! Даўно змёр. Ён жа ў той сотні радзіўся». Здаецца, мар'яліўцы расказалі ўсё, што маглі. Расказалі прыгожай беларускай мовaю, жывым беларускім словам, якое гэтак любіў Янка Купала. Дарэчы, бабка Ванда ведае на памяць цэлыя Купалавы паэмы, хоць ніводнага дня не хадзіла ў школу. А самае цікавае — яна і не здагадвалася, што распавядае Купалавы паэмы «Зімою», «Нікому», напісаныя ім у 1906 годзе, гэта значыць у бараўскую пару. Я вельмі ўдзячны лёсу, што ён прывёў мяне ў Мар'ялiва, якое з гэтай пары стала для мяне больш блізкае, не такое безаблічнае, як дагэтуль.

## АПОШНІЯ АГЛЕДЗІНЫ

Спазнаваць Бараўцы, як і іншыя Купалавы мясціны, я пачаў гадоў гэтак з дваццаць-дваццаць пяць таму. Не было такога года, каб не завітаў у той ці іншы Купалаў кут — адзін ці з сваімі сталымі спадарожнікамі: усё з тым жа Паўлам Дзядзюлем ці кім-небудзь з мастакоў — Марачкіным, Купавам... Заўсёды было цікава паглядзець, як перазімавалі Купалавы мясціны, ці змянілася што, ці не адкрыецца воку і душы штось новае. Адным словам, рабіў штогодні такія агледзіны, акурат, як Купала ў «Спадчыне»:

І ў белы дзень і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з'едзены.

Бараўцы не з'яўляліся выключэннем. Наадварот, іх я наведваў часцей за іншыя мясціны: яны ж побач з Мінскам, па дарозе на Вячу. Пра іх у нашым літаратуразнаўстве толькі скупыя згадкі. Нават у Купалавай энцыклапедыі пра Бараўцы сказана мімаходзь. То цікавасць да гэтай вёскі была ў мяне як у першапраходца. Але гады два-тры, заняты іншымі клопатамі, я амаль не наведваў Купалавы мясціны. Бараўцы таксама. Жыў толькі чуткамі. А яны былі трывожныя. Казалі, нібыта Бараўцы пусцілі пад дачы. Але не хацелася верыць, што хтосьці пасадзіць дачнікаў якраз на Купалаў лапік і так перайначыць мясцовасць, што яе не назнаеш. Між тым, чуткі неўзабаве пацвердзіліся. Купалаў прыродны кут у Бараўцах гэтак быў перайначаны, што толькі можна падзівіцца: навошта ж так рабіць?! Знікла балотца, сажалка, лугавіна, поплаў, Бірулёва гара з грывай маладога лесу на ёй. А на іх месцы кіпела будоўля. То будаваўся мінскі дачны люд. На колішнім балотцы, на лугавіне і поплаве стаўлялі адна-, двух- і трохпавярховыя катэджы. Бараўцы нагадвалі ўжо ні то горад, ні то вёску. Папытаўся бараўскіх людзей, што яны думаюць пра такое суседства. Думкі розныя. «А толькі пылу панарабілі... Туды-сюды ездзяць... Пыл скрозь у хаты лезе. Ад пылу задушваемся... Было спакойна, пакуль не гэтыя дачы»,— кажуць адны. Другім з дачнікамі весялей. Людзі яны працавітыя, да сёмага поту працуюць, руплівыя. Толькі навошта пазбавілі Бараўцы такіх выгодаў, як балотца, сенажаці і поплава. І сажалачка была нялішняя. З балотца і сена, і ягада, мох і грыбы, дубец і травіна... А колькі тут салаўёў вялося і іншага litрознага птаства! А цяпер бараўскія качкі ды

кражанкі не разумеюць, што тут здарылася і кладуць свае яйкі проста на пясок, ледзь не на дачныя грады. Дзівіцца і дубок — адзіны сведка з Купалавых часоў. Жыў ён сотню ці болей гадоў на прасторы, меў гэтулькі волі, глядзеў на вокны Купалавай хаты. А зараз — цяснота, свету Божага не відаць. Ці переажыве ён гэткае нагрувашчанне пабудоў тут?

Бараўскімі пераменамі ўзрушаны ўсе. Для таго, хто не быў тут год ці два, гэта нібы дзіўны сон. Жылі Бараўцы з веку ў век сваім мерным, мудрым сялянскім жыццём — і вось прычакалі сабе гарадскога суседа. Нагналі бульдозераў, экскаватараў, усё перавярнулі дагары нагамі. А то ж праўду казаў Купала:

Болота, забалаць балот,
Як там ні называй,
Але ступіў тут бальшавік —
Ён зменіць гэты край.

Невядома яшчэ, як ўсё тут павернецца: ці не разбураць дачнікі спрадвечны ўклад сялянскай душы, іх мову, побыт? Ну але што здарылася, тое здарылася. Зробленага не паправіш.

У тым, што не ўберагглі, не захавалі бараўскі Купалаў кут, ёсць доля віны і творчай інтэлігенцыі. За ўсю гісторыю Бараўцоў, з той пары, як жыў тут Купала, сюды не ступала нага ніводнага літаратуразнаўца, пісьменніка, паэта. Не пацікавіліся Бараўцамі ні фальклярысты, ні мовазнаўцы. Ніхто і бараўскім людзям не нагадваў пра Купалу. Адзінае, па радыё чулі пра яго. Там Купалу шануюць і там… А Бараўцы нібыта за высокімі гарамі, за глыбокімі даламі, а не побач з Мінскам.

З Купалавых сваякоў Бараўцы ў 1966 годзе наведалі Марыя Дамінікаўна, паэтава сястра, і яе пляменнікі — Уладзіслаў і Ядвіга Раманоўскія. З імі быў і Эдуард Аўлачынскі. Марыя Дамінікаўна расказала, як тут жылося Луцэвічам, Янку Купалу. Згадала, якое гора іх напаткала, як яны толькі пераехалі ў Бараўцы: падохлі каровы. Якойсьці травы наеліся з Доўгай сенажаці і іх разнесла, распушыла… Пахадзілі па колішнім дворышчы. Эдуард знайшоў падкову і гірку вагавую. Сфатаграфаваліся ля сажалкі і на пагорку.

Апошнім разам я браў з сабою ў Бараўцы Купалаву «Жалейку», а таксама зборнічак яго вершаў для дзяцей «Мой край». Бараўскія людзі з цікавасцю глядзелі Купалавы кніжкі, казалі: «Ніколі не бачылі. Каб мелі, пачыталі б…» Надумалася: «А чаму б на свята, скажам, на Купалаў дзень, не завітаць якойсь краме на колах у Бараўцы ды

разам з хлебам прывезці і паэтавы кніжкі?!» Перакананы, бараўскія людзі за такі гасцінец вельмі былі б удзячныя.

У Купалаву пару Бараўцы былі невялікім селішчам: гаспадарак гэтак на пяць-шэсць. Двары мясціліся адзін ад аднаго на водшыбе, незалежна і мелі шмат розных спадручных пабудоў. Гэта і пуні, і хляўкі, такі, аборы, аўчарні, лазні, стопкі, вяндлярні. А яшчэ, расказваюць, была ў Бараўцах калісь невялікая карчомка. Сядзела яна поблізу той мясціны, дзе каплічка. Месца і цяпер называюць Карчомнае, а гаспадароў, што забудаваліся на тым лапіку — Дзядкаў,— клічуць Карчомнымі.

Цяпер у Бараўцах двароў з дваццаць. Разрасліся яны, разбудаваліся за час калектывізацыі і маюць не адну, а некалькі вуліц. Праўда, па іх назвах і не здагадаешся, што тут прарок Купала праспяваў у гонар чалавека велічную оду.

Віхура вайны абышла Бараўцы, падчас яе згарэла толькі адна хата. І то з выпадковага стрэлу. Немцы тут бывалі наездамі. Заскочаць, збяруць якія харчы і паехалі сабе. Выжыць бараўскім людзям дапамагала іхняя еднасць. Яны дзень і ноч вартавалі сваю вёску. Адчуўшы трывогу, імгненна шукалі ратунку ў лясах, што былі тут адразу за агародамі. Праз Бараўцы ішла партызанская дарога.

Новая старонка для Бараўцоў пачалася з канца васьмідзесятых гадоў, калі тут з'явіліся першыя дачнікі. Вось з той пары і пачаў разбурацца спрадвечны бараўскі абрыс. Янка Купала яго б не пазнаў. Хіба толькі могілкі ды колькі бараўскіх дубкоў. Здзівіўся б пераменам і ў Чарцяжы. Фальварак Міхалевічаў таксама з усіх бакоў абляпілі дачы, лецішчы, фазэнды. Іх тут яшчэ больш, чым у Бараўцах. Вось яна сапраўдная сіла зямлі! Зямля ж напоіць і накорміць! За апошнія гады моцна змяніўся і стары Бараўскі гасцінец: яго значна расшырылі, падсыпалі, пассякалі прысады, на пэўных прамежках паклалі і асфальт. Але напрамак яго не змяніўся. Ён дакладна такі, які быў і сто і дзвесце гадоў таму. Хіба толькі пазнікалі прыкметы таго часу: шматлікія крыжы, каплічкі, засценкі пры дарозе. Але на гэта ёсць чалавечая фантазія. То ў дарогу, у вандроўку па старым Бараўскім тракце. Ён давядзе вас і да Купалавых Бараўцоў, да радзімы Купалавай «Адвечнай песні».

**ЗМЕСТ**

**Навукова-папулярнае выданне**
**СОДАЛЬ Уладзімір Ілліч**
**ТУТ БАЧУ СВОЙ КРАЙ**

*Загадчыца рэдакцыі Л.І. Круглова*
*Рэдактар А.І. Саламевіч*
*Мастацкі рэдактар У.М. Якунін*
*Тэхнічныя рэдактары С.І. Стараверава, Л.В. Сторажава*
*Карэктары Л.І. Жылінская, Я.А. Лукошка*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютарнай тэхніцы
выдаведтва "Полымя".
Падпісана да друку з арыгінал-макета 30.11.93. Фармат 70х100$^{1/32}$.
Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк.
Папера агульнага прызначэння.
Ум. друк. арк. 3,22. Ум. фарб.-адб. 3,49. Ул.-выд. арк. 2,99.
Тыраж 6ООО экз. Выд № 9118. Зак. 5844.

Выдавецтва «Полымя»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Ліцэнзія ЛВ № 432
220600, Мінск, пр. Машэрава, 11

Друкарня "Победа"
222310, Маладзечна, У. Таўлая, 11

Содаль У.І.

С 57   Тут бачу свой край.– Мн.: Полымя, 1994.– 78 с.: іл.

**ISBN 5-345-00714-4**

У кнізе расказваецца пра адну з Купалаўскіх мясцін – вёску Бараўцы пад Мінскам і яе наваколле. Тут у паэта адбыўся літаратурны дэбют, тут ён падрыхтаваў свой першы зборнік “Жалейка”, напісаў знакамітую паэму “Адвечная песня”.

Шырокаму колу чытачоў.

**С** $\frac{\textbf{8820600000 – 049}}{\textbf{M 306 (03) – 94}}$ **7 – 49**

**ББК 83.3Бел + 26.891 (2Б)**